PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 18 (2190) Год XLIII | Беласток 3 мая 1998 г. | Цана 1 зл.



*Царква Праабражэння Гасподняга ў 1948 г.*

## У нумары



# Святая Гара Грабарка

Гэтая мясцовасць, вядомая ў краіне і па-за яе межамі як *Святая Гара Грабарка*, належыць да ліку найболып шанаваных месц культу Усходняй Царквы на працягу стагоддзяў. Апошнім часам аддаецца ёй асаблівая пашана і з'яўляецца яна неаспрэчным санктуарыем Праваслаўя ў Польшчы.

Пішучы пра *святую гару* трэба памятаць, што ў старажытных рэлігіях *гара* была сімвалам моцы, магутнасці, непахіснасці і вечнасці, прадметам рэлігійнага культу ў першабытных і больш цывілізаваных народаў. У Старым Запавеце была яна сферай адведзенай выключна Богу, а ў Новым Запавеце гэты геаграфічны тэрмін таксама мае багаслоўскі і сімвалічны сэнс.

Каб вывучыць гісторыю сённяшняга санктуарыя на Святой Гары Грабарцы, нельга абысці маўчаннем мінулае суседняга мястэчка Мельнік, распаложанага на важным водным шляху, які спалучаў цывілізацыю поўдня і поўначы. Пачаткі Мельніка цесна звязаны з рускім засяленнем гэтых зямель, якія пачаткова мелі сувязь з Кіеўскім княствам, потым з Вялікім княствам Літоўскім і адміністрацыяй старажытнага горада ў недалёкім Брэсце. Гістарычныя звесткі выразна пацвярджаюць гэтыя здарэнні. Іпацьеўскі летапіс пад 1260 годам паведамляе, што рускі князь Даніла паслаў свайго брата Васілька на Літву: *... и проводи его до Берестя, и посла с ним люди своя, и помолися Богу, яже есть икона в городе Мельницы в церкви святой Богородицы, и обещася Данило украсити ю....*

Хрышчэнне Кіеўскай Русі пасадзейнічала развіццю манаскага жыцця на абшарах, якія падлягалі рускім князям. Вядома нам, што пасля крывавых змаганняў рускіх князёў у XIV ст. Мельнік належаў Літве. Кароль Казімір Вялікі, заключаючы ў 1366 годзе пагадненне з літоўскімі князямі, заявіў, *што на Мельнік і іншыя гарады Падляшша на правым беразе Буга, якія належаць трокскаму князю Кейстуту, з гэтай пары прэтэндаваць не будзе.* Падляшша апынулася ў арбіце ўплываў Вялікага княства Літоўскага. Узніклыя цэнтры хрысціянскага жыцця працягвалі сваю місію, развівалася манаскае жыццё. У адрозненне ад заходняй традыцыі, паводле якой манахі ўзводзілі сабе пышныя збудаванні ў гарадах, манахі Кіеўскай Русі адыходзяць ад „свету", пасяляюцца ў адасобленых месцах у лясных абшарах, ствараючы там новыя супольнасці. Пасяляюцца яны пераважна на межах паміж пасяленнямі і месцамі культу. Жывуць у пячорах, зямлянках або збудаваннях, званых *скітамі*. Адным з такіх культавых месцаў можна лічыць горад Мельнік з іконай Спаса. Паводле мясцовай традыцыі, манахі жылі ў ваколіцах Грабаркі. Самы ранні друкаваны артыкул пра Грабарку з'явіўся ў органе Літоўскай епархіі. Аўтар, настаўнік Квярцэстус з Драгічына, апісаў у ім паломніцтва 6/19 жніўня 1858 года на Святую Гару Грабарку. Знайшоў ён у адлегласці паўтары вярсты старажытны могільнік *на небольшём холме, заросшем частию лесом надгробные камени, из известняка плиты с высеченными осьмиконечными крестами, а по сторонам их где следовало старинные славянския буквы подходящие по начертанию греческим.*

Мельніцкая ікона Спаса Збавіцеля ў час змаганняў апынулася пад пагрозай і апекаваліся ёю відавочна манахі ў месцах свайго пасялення. У недалёкім Драгічыне існавалі царква і Спасаўскі манастыр. У ваколіцах Машчоны-Каралеўскай (колішняй баярскай вёскі) яшчэ да І-й сусветнай вайны былі месцы, у якіх жылі пустэльнікі. Святая Гара Грабарка найбольшую вядо-

[*праця*г ☞ 9]

# Мы прачыталі

*Całkiem nieźle mają się czasopisma powstałe jeszcze na fali odwilży po 1956 r. („Niwa", ukraińskie „Nasze Słowo", litewska „Aušra" i słowacki „Život"). Chociaż ich obecny nakład w ciągu tych lat obniżył się kilkakrotnie i daleko im do współczesnych standardów wydawniczych, to ministerialne dotacje pozwalają na przyzwoite wynagrodzenie i honoraria autorskie, co stabilizuje pracę redakcji. W gorszej sytuacji są pisma dofinansowywane „w drugiej kolejności" takie, jak „Czasopis" (chociaż w wykazie nie udało mi się znaleźć drugiego podobnego miesięcznika). Od takiego stwierdzenia zacząłem swoje wystąpienie (падчас сустрэчы рэдактараў часопісаў нацыянальных меншасцей з сеймавай Камісіяй па справах нацыянальных і этнічных меншасцей — рэд.). Nie żaliłem się jednak, jak to czyniła większość redaktorów, że brakuje nam pieniędzy. Wskazałem na rolę i znaczenie „Czasopisu". (...) Czytelnicy — mówiłem — których liczbę szacujemy na ok. cztery tysiące...,* — піша галоўны рэдактар „Czasopisu" Юры Хмялеўскі.

*Czasopis, nr 4*

Інфармуем рэдактара Хмялеўскага, што галоўны рэдактар „Нівы" гатовы неадкладна памяняцца з вамі сваёй зарплатай. Выкарыстайце гэты шанц. Будзеце тады мець „przyzwoite wynagrodzenie".

* * *

*Kim jestem? Przez ostatni czas stawiano mi to pytanie. Mam wielu przyjaciół różnych narodowości: Ukraińców, Łemków, Białorusinów, Polaków (...). Jestem chrześcijanką wyznania prawosławnego. Ta, a nie inna wiara, jest dla mnie argumentem, aby negować określenie siebie jako Polki. Nie należę do tych, którym od małego wpajano daną narodowość, którzy wychowali się w określonej kulturze. Ja po prostu nie wiem kim jestem, lub nie wiem kim chcę być. Obserwując życie, zauważyłam pewną „modę" czy to na białoruskość, czy na ukraińskość. Większość robi to dla pieniędzy,* — піша чытачка

*Przeglądu Prawosławnego, nr 4*

Хто адказны за такі інтэлектуальны ўзровень „chrześcijan wyznania prawosławnego"? Рэдактар Чыквін пастаянна заяўляе, што свой часопіс рэдагуе для беларускай нацыянальнай меншасці. Мае 7 тысяч чытачоў, „Czasopis" — 4 tys., а БГКТ — 8 тысяч членаў. Мы, натуральна, у гэта верым. Але! Нясмела хочам заўважыць, што кожны народ мае сваю мову. Беларусы таксама. Аднак, калі г.зв. „эліта" звяртаецца да яго на чужой мове, нічога апрача шызафрэнічных станаў узнікнуць не можа. Але можа нам толькі так здаецца.

* * *

*Oczywiście otrzymuję zaproszenia na różne uroczystości prawosławne. Jednak do tej pory nie miałam okazji osobiście w nich uczestniczyć. Zastępował mnie albo wicewojewoda albo dyrektor odpowiedniego wydziału. Natomiast na uroczystościach religijnych swojego Kościoła uczestniczę jako osoba prywatna bez żadnych zaproszeń. Wynika to z moich obowiązków jako katoliczki,* — сказала беластоцкі ваявода Крыстына Лукашук.

*Kurier Poranny, nr 84*

* * *

*Większość pism stara się aby tekst był maksymalnie zwięzły, by żadnym wysiłkiem umysłu nie odstręczać klientki, a nadto konsumpcyjny prymitywizm zaczyna już bulwersować najliberalniejszych wychowawców młodzieży. Czytelnicy rzeczy wartościowych rekrutują się obecnie głównie spośród niewielkiej wykształconej mniejszości. A media żyją dzięki większości. Rywalizacja uruchomiła proces obniżania poziomu. Tandeta jest niedroga i powszechnie dostępna. Najlepiej widać to w telewizji. TVP SA nieustannie ogłasza komunikat: widzu, wiemy, że jesteś kretynem, u nas nie spotka cię żaden wysiłek umysłowy — odpowiedz tylko na pytanie audio-tele.*

*Polityka, nr 15*

* * *

*Пакуль у большасці беларусаў не будзе больш-менш трывалага ўсведамлення каштоўнасці нацыянальнай ідэі, унутранай патрэбнасці жыць у незалежнай дэмакратычнай еўрапейскай Беларусі, датуль перамогі над таталітарызмам і невуцтвам у нас не будзе. Але гэтых мэтаў немагчыма дасягнуць адным палітычнымі сродкамі. Тут патрэбна мабілізацыя ўсіх інтэлектуальных і духоўных сілаў новай Беларусі. Між іншым трэба стварыць стварэнне ідэальнага маральнага вобраза сапраўднага беларуса і беларускі. Маральным узорам для нас павінны быць змагары за незалежнасць Беларусі, абаронцы Беларусі ад гітлераўскіх фашыстаў і іншых ворагаў...,* — піша Лявон Баршчэўскі, выконваючы абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту.

*Свабода, н-р 34*

Лукашэнка, відаць, не мае цяпер ніякай палітычнай канкурэнцыі ў Беларусі. Шарэцкі, Шушкевіч, Саннікаў, Фядута. Баршчэўскі — кожны сярэднеінтэлігентны дыктатар толькі марыў бы аб такой апазіцыі!

# З мінулага тыдня

**Беларускія** сродкі масавай інфармацыі атрымалі ананімнае паведамленне, што 15 красавіка ў 10 гадзін пачаліся канфідэнцыяльныя перамовы паміж акружэннем **Аляксандра Лукашэнкі** і прадстаўнікамі адной г.зв. апазіцыйнай партыі. Гэтай партыяй быццам бы мела быць сацыял-дэмакратычная Народная грамада, а тэмай перамоў — выхад Беларусі з міжнароднай ізаляцыі. Ананімны інфарматар сцвярджае, што апазіцыянерам прапанавалася ўзначаліць сем міністэрстваў. Прэс-сакратар Народнай грамады **Лявон Дзейка** аспрэчыў гэтыя паведамленні.

**Ежы Бузэк** і **Беньямін Нетан'яху** — прэм'ер-міністры Польшчы і Ізраіля ўзначалілі сямітысячнае Шэсце жывых з Аўшвіц у Біркенаў. Штогадовыя шэсці арганізуюцца ўжо дзесяты год з мэтай ушанаваць Дарогу смерці, якою сотні тысяч яўрэяў ішлі ў крэматорыі канцэнтрацыйнага лагера. Большасць удзельнікаў шэсця на працягу тыднёвай пабыўкі ў Польшчы наведала іншыя месцы мартыралогіі і гарады, вядомыя шматвяковай яўрэйскай культурай.

**Чачня** прызначыла сваіх паслоў у васьмі краінах свету, між іншым і ў Польшчы. Прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў **Павел Дабравольскі** заявіў, што Польшча лічыць Чачню суб'ектам Расійскай Федэрацыі і яна не мае права самастойна ўстанаўліваць свае дыпламатычныя прадстаўніцтвы.

**Міністр Ежы Крапіўніцкі** — шэф Урадавага цэнтра стратэгічных даследаванняў прадставіў рапарт наконт уздзеяння новага закона аб іншаземцах на развіццё дробнага гандлю ў Польшчы. З праведзеных даследаванняў вынікае, што ў студзені 1998 года рух на дарожных пагранпераходах з Беларуссю панізіўся на 40%, а на чыгуначных — на 50%, у выніку чаго значна зменшыўся тавараабарот на базарах, а гэта ў сваю чаргу адмоўна паўплывала не толькі на рынкі паўночнай і ўсходняй Польшчы, але і Лодзінскага ды Радамскага ваяводстваў. Па гэтай прычыне за два месяцы беспрацоўе ў Беластоцкім ваяводстве ўзрасло на 5,9%.

**Чыгуначны вакзал** у Беластоку будзе адрамантаваны да канца 2000 года, а на завяршэнне мадэрнізацыі спатрэбіцца каля 6,8 млн. зл., — заявіў віцэ-міністр транспарту **Кшыштаф Тхажэўскі** падчас візіту ў сталіцу Беластоцкага ваяводства. Паведаміў ён таксама, што дзякуючы фінансавай падтрымцы фонду PHARE будуць рамантавацца дарогі да пагранічных пераходаў у Кузніцы-Беластоцкай і Баброўніках.

**Беласток** атрымае ў гэтым годзе дзевяць новых аўтобусаў, а папаўненне гарадскога транспарту будзе каштаваць 6 млн. зл. Чарговае паўмільёна зл. з гарадскога бюджэту будзе прызначана на мадэрнізацыю і рамонт аўтобусаў.

**У XIII Алімпіядзе экалагічных ведаў** прыняло ўдзел дзевяноста вучняў з 32 сярэдніх школ Беласточчыны. Пераможцамі ваяводскіх элімінацый сталі: **Бартламей Самсановіч** з I Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім, **Міхал Мазуркевіч** з Ляснога тэхнікума ў Белавежы і **Анна Васілюк** з II Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы. Будуць яны прадстаўляць Беласточчыну на цэнтральных элімінацыях, якія адбудуцца ў чэрвені ў Явожне.

**Залатыя туфлікі** — так называўся міжнародны турнір танца, які адбыўся ў Беластоку. Удзельнічала ў ім каля 200 пар з Польшчы, Беларусі, Нямеччыны, Эстоніі і Літвы.

# Весткі з Беларусі

**Паніжэнне рангу місіі МВФ**

Прэм'ер-міністр Сяргей Лінг сустрэўся з прадстаўнікамі Міжнароднага валютнага фонду. Пастаянны прадстаўнік МВФ у Беларусі Рычард Хаас у ліпені будзе адкліканы ў Вашынгтон. Кіраўніцтва Фонду палічыла мэтазгодным не накіроўваць у Беларусь іншага пастаяннага прадстаўніка. Было вырашана, што з гэтымі абавязкамі можа спраўляцца прадстаўнік МВФ у Літве Адалберт Кнобл, які быў прадстаўлены кіраўніку ўрада. Паводле Хааса, калі кіраўніцтва Беларусі пажадае звярнуцца з якой-небудзь прапановай да Фонду, то ў гэтым выпадку можна будзе напрамую звязацца з Адалбертам Кноблам.

**Інвестыцыі на граніцы**

У рамках пагаднення аб мытным саюзе паміж Расеяй і Беларуссю пачалася рэканструкцыя міжнароднага пагранічнага аўтаперахода Бераставіца Гродзенскай вобласці. Пасля намечанага на май 1999 года завяршэння рэканструкцыі праз Бераставіцу змогуць праходзіць 1800 грузавых аўтамабіляў у суткі. Гэта ў шэсць разоў больш, чым зараз. Будаўнікі ўзводзяць будынак для мытнага і пагранічнага кантролю, некалькі крытых павільёнаў, а таксама пракладаюць аб'язную аўтамабільную дарогу. На правядзенне рэканструкцыі Расеяй і Беларуссю выдзелена 10 млрд. беларускіх рублёў. Прынята таксама рашэнне пашырыць на польска-беларускай граніцы міжнародны аўтапераход Брузгі недалёка ад Гродна.

**Помнік у Вялікабрытаніі**

У Гродне прадстаўнікі мясцовай улады ўзялі зямлю з месцаў пахаванняў воінаў, якія загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне. Капсула з ёю будзе адпраўлена ў Вялікабрытанію, дзе 8 мая адкрыецца помнік савецкім салдатам.

**Радыеактыўная небяспека**

Адбываецца інтэнсіўнае разбурэнне аб'ектасховішча, пабудаванага над чацвёртым энергаблокам Чарнобыльскай АЭС, які ўзарваўся ў 1986 годзе. Вучоным катастрафічна не хапае інфармацыі для вывучэння прычын гэтай з'явы і няма поўных даных аб тым, што ж там зараз адбываецца, бо высокая радыяцыя не дазваляе нават наблізіцца да аб'екта. Па словах дырэктара Чарнобыльскай АЭС Сяргея Парашына, разбурэнне аб'ектасховішча пагражае выхадам за яго межы радыеактыўнага пылу, агульная колькасць якога па розных ацэнках можа скласці ад 34 да 100 тон.

**Узнагароджаны амерыканец**

Прэм'ер-міністр Сяргей Лінг уручыў медаль Францыска Скарыны каардынатару дабрачыннай праграмы „Рамапа дзецям Чарнобыля" амерыканскаму настаўніку Дональду Кэрпсу. Гэтай узнагароды ўдастоены ён за вялікі ўклад у развіццё дружбы паміж беларускай і амерыканскай моладдзю. У красавіку дэлегацыя вучняў школы горада Рамапа (штат Нью-Йорк) чарговы раз зрабіла паездку па Беларусі. Амерыканскія школьнікі выступілі з канцэртамі перад сваімі равеснікамі ў Шклоўскім, Нясвіжскім, Шаркаўшчынскім раёнах і горадзе Менску. Акрамя таго яны перадалі ў беларускія школы і бальніцы медыкаменты і дзіцячыя цацкі.

**Сталічнае паветра**

Індэкс забруджання атмасферы Менска самы нізкі сярод буйных гарадоў рэспублікі. Перашкаджаюць мянчанам дыхаць свежым паветрам у асноўным аўтамабілі. Толькі легкавушак на дарогах сталіцы бегае звыш 200 тысяч. На долю ўсяго гарадскога аўтатранспарту прыпадае 70% выкідаў шкодных рэчываў у атмасферу. У цёплы час года асабліва неспрыяльныя ў экалагічным плане цэнтральная і ўсходняя часткі горада, а ўсе скрыжаванні — і зімой, і летам. Што да прамысловых выкідаў, то з 1990 года іх колькасць скарацілася напалову, але прадпрыемствы пачалі працаваць больш эфектыўна і эколагі папярэджваюць, што гэты паказчык будзе расці.

**Кадэбісцкі падарунак**

Супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Гомельскай вобласці зрабілі своеасаблівы велікодны падарунак праваслаўным вернікам мясцовай епархіі. Яны перадалі Царкве некалькі дзесяткаў ікон і іншых культавых каштоўнасцей, якія былі затрыманы пры спробе незаконнага вывазу іх за межы краіны. Абразы будуць рэстаўрыраваны, а потым перададзены праваслаўным прыходам.

**Неўзабаве ў „Ніве"**

- Пройдзеныя шляхі — пуцявіны Апанаса Цыхуна.
- Дыскусія аб школьнай рэформе.
- Прэсавы рынак у цяперашняй Беларусі.

# Бібліятэка ў Музеі

**У зале Беларускага музея ў Гайнаўцы, дзе арганізаваліся выстаўкі, зараз знаходзіцца бібліятэка. Не спыніла гэта аднак галерэйнай дзейнасці. Можна там убачыць таксама выстаўку фатаграфіяў Юрыя Вуйціка „Прыпушчанскія краявіды".**

Ад першага лютага г.г. выпускніца Берасцейскага педінстытута Наталля Герасімюк пачала парадкаваць кніжкі, у галоўным прывезеныя з Беларусі і рыхтаваць каталогі для бібліятэчнай працы. Зараз у адгароджаным ад бібліятэчна-галерэйнай залы памяшканні знаходзіцца больш чым дзве тысячы беларускіх кніжак.

— У асноўным гэта метадычныя кніжкі для настаўнікаў беларускай мовы пачатковых школ і ліцэяў. Некалькі перакладаў з беларускай на польскую і расейскую мовы, — гаворыць бібліятэкарка Наталля Герасімюк. — Што тычыцца літаратуры, дык апрача класікі ёсць і сучасная паэзія, і проза, у тым ліку вершы Адама Глёбуса, Ігара Бабкова, Ларысы Геніюш. Можна знайсці гістарычныя ці этнаграфічныя матэрыялы, пачытаць беларускія часопісы або газеты. Нядаўна мы выслалі ліст у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з просьбай дасылаць нам важнейшыя газеты і часопісы. Апрача штодзённага карыстання маглі б мы збіраць усе нумары для навуковай апрацоўкі.

Спадарства Вера і Грыша Шэйпакі, што жывуць у Аўстраліі, даслалі многа газет і часопісаў, якія выходзілі ў замежжы.

— У нашай бібліятэцы маем усе экземпляры „Бацькаўшчыны" ад 1960 года, усе нумары „Беларуса" ад 1960 года, экземпляры „Беларускай моладзі" (часопіса Згуртавання беларускай моладзі Амерыкі) ад 1959 да 1980 года, „Зважай" (што выходзіць у Таронта) ад 1974 да 1989 года, паасобныя нумары „Ведаў" (што друкаваліся ў ЗША) і большасць нумароў часопіса „Божым шляхам" (ад 1957 года), — паясняе Наталля Герасімюк. — За ўсе гэтыя нумары вельмі сардэчна дзякуем спадарству Шэйпакам.

Бібліятэка супрацоўнічае з „Навінамі Камянеччыны" што выходзяць у Камянцы, недалёка за мяжою.

— Прывозім з Камянца „Роднае слова", „Голас Радзімы", „Пачатковую школу" ці „Народнае свята". Дасылаюць нам і кніжкі сабраныя на Берасцейшчыне. Апошнім разам прывязла я больш чым 100 кніжак, — кажа бібліятэкарка.

Зараз бібліятэка працуе па панядзелках, серадах і суботах з 10[00] да 18[00]. Найчасцей сюды прыходзяць ліцэісты і настаўнікі беларускай мовы. Наведвальнікамі былі студэнты беларускіх філалогіяў Варшаўскага і Люблінскага універсітэтаў.

— У канцы лютага адбылася сустрэча з настаўнікамі беларускай мовы, якія звярнулі ўвагу на патрэбу стварэння ў бібліятэцы кутка метадычнай літаратуры, — паведамляе Наталля Герасімюк. — Ліцэісты найчасцей карыстаюцца літаратурай рыхтуючыся да ўрокаў беларускай мовы. Некаторыя купляюць кніжкі, бо і такая магчымасць ёсць. Вельмі ахвотна бяруць розныя дапаможнікі, якімі можна карыстацца пішучы сачыненні. Найбольш папулярны дапаможнікі Васіля Дзянісавіча Старычонка, у якіх аўтар не толькі вучыць як пісаць сачыненні, але і дае прыклады гатовых прац.

Спалучэнне бібліятэкі з выставачнай залай зробіць іх толькі больш даступнымі для наведвальнікаў.

**Аляксей Мароз**

# Менш на выдавецкую дзейнасць

22 красавіка г.г. у Варшаве адбылася сустрэча прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей з новым міністрам культуры і мастацтва Іааннай Внук-Назаровай. Прысутнічалі таксама віцэ-міністр унутраных спраў і адміністрацыі, кіраўнік урадавага калектыву па вырашэнні спраў нацыянальных меншасцей Кшыштаф Ляга і старшыня Сеймавай камісіі па справах нацыянальных меншасцей Яцэк Курань.

Вядучы сустрэчу Ежы Завіша, які цяпер выконвае абавязкі дырэктара Дэпартамента культуры нацыянальных і этнічных меншасцей заявіў, што датацыі ў гэтым годзе для ўсіх установ, якімі апякуецца міністэрства будуць пабольшаны на велічыню мінулагодняй інфляцыі, г.зн. на 11 працэнтаў. У гэтым годзе, так як і гэта было раней, 68% датацыі будзе адведзена на выдавецкую дзейнасць і 32% — на арганізацыю мерапрыемстваў — фэстаў, фестываляў і на падтрымку для калектываў. Але ў найбліжэйшай будучыні ў гэтай галіне плануюцца змены. Ежы Завіша выказваецца за тое, каб прынамсі палова, а з часам нават і больш, грошай з дзяржаўнага бюджэту была выдаткавана на падтрымку імпрэзаў. Такі напрамак палітыкі пацвердзіла міністр Іаанна Внук-Назарова, а падтрымалі яе ў гэтым старшыня БГКТ, пасол СЛД Ян Сычэўскі і прадстаўнік украінцаў з Пярэмышля Мірон Кэртычак. Калі б сапраўды ў будучыні рэалізавалася такая палітыка, на практыцы абазначала б гэта большую падтрымку для ўсялякіх форм фальклорнай дзейнасці. Стварэнне кніжак і часопісаў, якое патрабуе не толькі працы, але раней таксама шматгадовай інтэлектуальнай падрыхтоўкі аўтараў і чытачоў, было б тады пастаўленае на ўзроўні народных фэстаў і ўсялякіх купальскіх начак. Спадарыня міністр сказала, што часопісы служаць толькі самім меншасцям, а фэстывалі адрасуюцца ўсім, таксама і палякам, якія такім чынам знаёмяцца з культурай сваіх суседзяў. „Цяпер вярнулася мода на фолькавую музыку і трэба дапамагчы меншасцям у развіцці і папулярызацыі іх музычнай творчасці, якая ўзбагачае польскую культуру", — заявіла Іаанна Внук-Назарова.

Дзеячы, якія бралі голас у дыскусіі, хвалілі палітыку ўрада ў адносінах да нацыянальных меншасцей, наракалі на самаўрады, іх абыякавасць, ігнараванне, нецалерантнасць у гэтай галіне. Ян Сычэўскі звярнуўся да віцэ-міністра Кшыштафа Лягі, каб той паўплываў на змену адносін самаўрадаў да патрэб меншасцей. Віцэ-міністр адказаў, што самаўрады цяпер зусім незалежныя і дзяржаўная ўлада не можа нічога ім навязваць ці ўнушаць. Гэта абазначае таксама, што калі б радныя ў Орлі, Чыжах ці Нарве захацелі, каб культурныя ўстановы ў іх гмінах працавалі па беларускай мове, іх патрабаванне магло б здзейсніцца на практыцы. Але гэта толькі фантазія.

**Яўген Мірановіч**

# Сустрэча з паслом Сейма

9 красавіка г.г. у Чаромхаўскім асяродку культуры адбылася сустрэча жыхароў пасёлка з паслом у Сейм Рэчы Паспалітай Сяргеем Плевам.

Аўдыторыя не была вялікая, хоць паведамленні па вёсках былі развешаны намнога раней.

— Можа гэта і добра, — гаварыла пазней сакратар Гміннай управы Валянціна Кердалевіч, — бо кожны з прысутных мог свабодна пагаварыць з госцем і атрымаць на свае пытанні непасрэдны адказ.

Сустрэча пачалася з невялічкім спазненнем. Пасол перапрасіў за гэта прысутных, паколькі спазненне было вынікам ягонага візіту на пагранічным пераходзе ў Полаўцах.

— Я спадзяваўся пытанняў пра праблемы звязаныя з дарожным пагранічным пераходам, — тлумачыў пасол Сяргей Плева, — таму раныў цікавіўся справай на месцы. А час ляціць непрыкметна... — пажартаваў. Затым госць нагадаў кароценька прысутным сваю біяграфію.

— Гэта мая другая кадэнцыя, — пачаў прамоўца. — Працую ў двух сеймавых камісіях: будаўніцтва (згодна са сваёй прафесіяй) і нацыянальных меншасцей. Гэтай апошняй старшынствуе пасол Яцэк Курань, які вельмі сур'ёзна падыходзіць да нашых праблем і аб'ектыўна ставіцца пры вырашэнні кожнае з іх. З сумам хачу прыкмеціць, — гаварыў далей пасол, — што фінансавыя сродкі на дзейнасць нацыянальных меншасцей не забяспечваюць усіх патрэб і гэта мяне моцна хвалюе...

Пасля пасол расказаў пра сваю дзейнасць у паасобных камісіях, а выступленне завяршыў словамі:

— У часе сваёй пасольскай кадэнцыі я падаў дванццаць інтэрпеляцый і пытанняў. Апошнее тычылася абмежаванняў у прыгранічным руху. У гэтай справе я атрымаў адказ ад намесніка прэм'ер-міністра Яна Тамашэўскага. Адказ не задаволіў мяне, бо віцэ-прэм'ер не паказаў як гэтая справа будзе канчаткова развязана, а тым больш не назваў даты яе вырашэння.

Сустрэча прыняла рабочы характар. Прысутныя ставілі пытанні, а госць непасрэдна на іх адказваў. Вось некаторыя з іх:

„Калі пенсіянеры атрымаюць абяцаныя ўрадам талоны або акцыі прыватызаваных прадпрыемстваў як кампенсацыю пераацэнкі пенсіяў у 1992 г.?" — пытаў пенсіянер-чыгуначнік Мікола Ляўчук.

„Ці будзе зменены статус дарожнага перахода ў Полаўцах з польска-беларускага на міжнародны?" — цікавіўся купец Лявон Селях. Гэты бізмесмен скардзіўся таксама на клопаты з адпраўкай тавараў за мяжу па прычыне браку на месцы чыноўніка фітасанітарнай службы.

„Як улады бачаць справы сельскай гаспадаркі?" — пытаў Мікола Саевіч.

„Чаму ЦДОКП намагаецца закрыць чыгуначную лінію Чаромха — Гайнаўка, а сувязісты хочуць злупіць з нас па 1500 зл. за пастаўку тэлефона на кватэру?"

На некаторыя пытанні пасол адказваў адразу, на іншыя абяцаў даць пісьмовы адказ пасля высвятлення справы адказнымі чыноўнікамі. Сустрэча закончылася разданнем візітных картачак пасла Сяргея Плевы.

**Уладзімір Сідарук**

# Крама ў Альхоўцы

У вёсках цяпер найбольш пенсіянераў. Пенсіянеру важна, каб было блізка да прадуктовай крамы. Тавараў у нас цяпер мноства, падавай толькі грошы.

Кожную раніцу па вясковай вуліцы едзяць на сігналах аўтакрамы. Яны, як быццам, крычаць: „Купляйце толькі ў нас, толькі ў нас!"

У Нараўчанскай гміне ўтрымаліся крамы ГСа — існуюць яны ў кожнай большай вёсцы. Прыватная канкурэнцыя прымушае працаўнікоў ГСа да больш эфектыўнай працы.

Прадаўшчыцай у ГСаўскай краме ў Альхоўцы зараз працуе Ірэна Грандзель — жахарка Семяноўкі. Даязджае яна на працу 6 кіламетраў. Каб прадаць тавар, новая прадаўшчыца адкрывае краму ў суботы, а часта і ў нядзелі.

У краме заўсёды чыста і прыемна. Жыхары Альхоўкі хваляць прадаўшчыцу за добрую працу, ветлівае абслугоўванне кліентаў і найбольш тавараў купляюць у яе. Асабліва ідуць у краму ГС, калі на двары халадна, непагадзь. Тут не змерзнеш і купіш, што захочаш. Людзі гавораць, што з такімі людзьмі як пані Грандзель ГС не згіне.

**(міква)**

# Жахлівае здарэнне

Гісторыя гэтая здарылася сапраўды. У адной падбельскай вёсцы дажывала свой век адзінокая старая дзева. „Прылізаўся" да яе хціві, праўдападобна адзінокі, стары кавалер і запрапанаваў апекавацца ёю, калі тая запіша на яго хату і ўсю нерухомасць. Прайшло трохі часу і апякун, са згоды далейшай сям'і, адправіў жанчыну ў прытулак для састарэлых у суседні горад. Нядоўга давялося ёй жыць на новым месцы, а калі адправілася на той свет, за целам прыехаў апякун-спадчыннік. У белы дзень павёз ён труну з нябожчыцай на прыхадскі могільнік.

Не на жарты перапалохалася выпадковая сялянка, якая апынулася ў той дзень каля могільніка. Яна амаль не абамлела, калі ўбачыла барадатага мужчыну, які капаў дол, і труну побач. На могільніку не было ні святара, ні іншых людзей. „Пахаваў яе сам адзін, без бацюшкі", — кажуць людзі. „Але як ён сам з гэтым справіўся? — дзівіцца вяскоўцы. — Як ён апусціў труну? А можа засунуў яе вертыкальна? Ці адпаведна глыбока пахаваў нябожчыцу?"

Людзям стала вядома, што пахавальную кампенсацыю апякун узяў неадкладна.

**Галадняк**

# Сяляне і калгаснікі

**У 1925 годзе падчас XIV З'езду Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў) Сталін аб'явіў сваю стратэгію перамогі сацыялізму ва ўсім свеце. Дзеля гэтага патрэбна была пабудова цяжкой прамысловасці ў Савецкім Саюзе. Інакш кажучы, для здзяйснення сусветнай рэвалюцыі трэба было падтрымаць „пралетарыят" у іншых краінах свету сілай Чырвонай Арміі. Сталін ведаў, што без пабудовы новых электрастанцый, металургічных заводаў, шахтаў немагчыма забяспечыць армію танкамі, самалётамі, гарматамі. Адкуль аднак было ўзяць грошы на такія гіганцкія інвестыцыі? Савецкае грамадства пасля рэвалюцыі было надта беднае, пазычыць у заходніх банкіраў таксама было немагчыма, таму што супраць іх інтарэсаў мелі праводзіцца гэтыя інвестыцыі. Бальшавікі вырашылі тады стварыць прамысловасць без выдаткавання вялікіх сродкаў, выкарыстоўваючы дарэмную працу мільёнаў сваіх грамадзян, якіх трэба было прывесці ў стан нявольнікаў. Амаль 85% жыхароў Савецкага Саюза жыло на вёсцы. У Беларусі гэты паказчык перавышаў 90%. Сяляне складалі тады асноўную крыніцу рабочай сілы, якую камуністы выкарысталі для пабудовы цяжкой прамысловасці.**

Калектывізацыя ў Беларусі пачалася пры канцы 1929 года і была сапраўднай вайной супраць найбольшай групы ўласнікаў. Большасць беларускіх камуністаў, у тым ліку і народны камісар сельскай гаспадаркі Зміцер Прышчэпаў, былі супраць калектывізацыі. Але ў 1929 годзе яны ўжо сядзелі ў турмах, абвінавачаныя ў беларускім нацыяналізме. Іх месцы занялі прысланыя з Масквы бальшавікі. У палове 1929 года толькі 1,4% зямлі было ва ўладанні калгасаў і саўгасаў. У лютым 1930 года Бюро Цэнтральнага камітэта бальшавіцкай партыі ў Беларусі вырашыла, што да веснавых севаў 80% зямлі будзе калектывізаванай. Беларуссю кіравалі бальшавікі, якія хацелі дасягнуць большых тэмпаў пераўтварэнняў, чым чаканні самога Сталіна. Тэрорам і гвалтам да канца сакавіка 1930 г. канфіскавалі 58% зямлі, якая была ва ўладанні сялян. Разам з зямлёй забіралі таксама хатнюю жывёлу — коней, кароў, свіней. Сяляне, каб не патраціць усяе маёмасці, масава забівалі жывёлу, а запасы мяса хавалі. Неўзабаве такія паводзіны ўлады прызналі праявай контррэвалюцыйнай дзейнасці, за што пагражала шматгадовае турэмнае зняволенне.

З увагі на недахоп корму жывёла таксама масава ішла пад нож у новастворных калгасах. Прадаўжанне калектывізацыі пагражала развалам усяе гаспадаркі. У красавіку 1930 года ў маскоўскай „Праўдзе" паказаўся артыкул Сталіна, у якім крытыкаваў ён партыйных актывістаў за „неразуменне бальшавіцкай палітыкі ў галіне сельскай гаспадаркі". Спасылаючыся на аўтарытэт Сталіна, да дапушчаных памылак падчас веснавой калектывізацыі прызнаўся Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі Беларусі. Кампанія крытыкі людзей і метадаў „сацыялістычных пераўтварэнняў" на вёсцы выклікала эфект непрадбачаны бальшавікамі. Сяляне і лакальны партыйны апарат успрынялі гэта як сігнал для ліквідацыі калгасаў. У чэрвені 1930 года толькі 11% зямлі было ва ўладанні дзяржавы і вясковых камунаў. Летам камуністы нанава пачалі прымушаць сялян адракацца ад свае зямлі, але тэмпы калектывізацыі былі ўжо нашмат меншыя чым у сакавіку. Да канца 1932 г. усё яшчэ палова зямлі была ў сялянскіх руках.

Разам з пашырэннем абшару калектывізаванай зямлі ўзрастала воля сялян бараніць сваю маёмасць. Большасць з іх паспела пабачыць лёс тых, якія трапілі ў калгасы. Дзяржава патрабавала зерня на экспарт, каб купіць неабходныя для новых фабрык машыны. Часам з калгасаў забіралі ўсё зерне, уключна з пасяўным матэрыялам. Голад стаў пастаянным таварышам сялянскай долі. Беларусь абмінула, аднак, тая трагедыя, якая напаткала Украіну, дзе некалькі мільёнаў людзей памерлі ад голаду. Каб неяк ператрываць, калгаснікі кралі ўсё, што трапляла ім у рукі. У жніўні 1932 года Сталін ад імя савецкага ўрада выдаў распараджэнне „Аб ахове дзяржаўнай маёмасці", у якім гаварылася, што за пакражу калгаснай уласнасці суды павінны караць расстрэлам, але ў асаблівых выпадках магчымым было змякчэнне кары і накіраванне „злачынцаў" на працу ў канцлагеры, аднак тэрмінам не карацейшым чым 10 гадоў. З увагі на тое, што на смерць пасылалі людзей, якія ўкралі некалькі каласкоў на калгасным полі, новы закон быў названы ў народзе „правам пяці каласкоў".

У Беларусі, нягледзячы на тэрор, калектывізацыя ішла вельмі марудна. Пару дзесяткаў тысяч сялян за супраціўленне такім пераўтварэнням паслалі ў Сібір, але ў 1934 годзе ўсё яшчэ 28% зямлі было ў прыватных руках. Каб ліквідаваць гэту кампраметуючую бальшавікоў сітуацыю, на правінцыю паслалі партыйных фанатыкаў, камсамольцаў, якім даручылі стварыць новыя калгасы. Яны таксама найчасцей былі назначаны іх дырэктарамі. Атрымалі яны амаль пракурорскія паўнамоцтвы і магчымасць абвінавачваць калгаснікаў у антысавецкай дзейнасці. Па іх прапанове магчымым было саслаць чалавека на доўгія гады ў сібірскія канцлагеры. Адначасова агратэхнічныя веды гэтай кіраўнічай кадры былі вельмі абмежаваныя. У 1936 годзе ўраджайнасць з аднаго гектара панізілася да 4,5 цэнтнера. Апошніх сялян загналі ў калгасы ў 1938 г. Тады таксама сотні тысяч беларусаў пагналі ў Сібір будаваць савецкую прамысловасць, сотні тысяч расстралялі.

Калектывізацыя вярнула сялян у перыяд феадалізму. Земляробаў пазбавілі права на ўласнасць, пашпарты, свабоду перасяленне, тысячамі кіравалі на прымусовую працу. Розніца была толькі такая, што цяпер пра іх лёс рашалі не феадалы, а партыйныя суды, якія аб'яўлялі прыгаворы „ад імя рабочага люду гарадоў і вёсак".

**Яўген Мірановіч**

# Добра, што хоць адзін зразумеў

**Адгалоскі**

Згодна сваймy статуту БГКТ палітыкай не займалася і займацца не будзе, а толькі плённа супрацоўнічае з афіцыйнымі ўладамі Беларусі на культурна-асветніцкай ніве, — сцвярджае ў артыкуле „У гэтай справе нельга маўчаць" Канстанцін Масальскі („Ніва" н-р 13 ад 29.03.1998 г.). Аўтар палемікі намаганні беларускай апазіцыі ўчыніць Беларусь **незалежнай** дзяржавай са сваёй мовай, канстытуцыяй і ўладай называе гульнёй. От, такой сабе гульнёй, да якой такая сур'ёзная арганізацыя як БГКТ ўмешвацца не будзе. Міліцыя разбівае мірныя дэманстрацыі, трушчыць косці і хрыбты дэманстрантам. Няхай там. Бывае. Як у любой гульні.

Несвядомым прыкідваецца кіраўніцтва БГКТ ці фактычна не ведае, што падарункі, якія атрымоўвае ад улад Беларусі — гэта сплата палітычнага даўгу за падтрымку і маўчанне, за тое, што БГКТ не ўблытваецца ў „палітычныя гульні" на баку апазіцыі. Няхай толькі БГКТ запратэстуе супроць парушэння законаў у Рэспубліцы Беларусь, а крыніца дапамогі высахне. Трэба быць шалёным, каб сысці з такога жыватворнага шляху, — мяркуе Канстанцін Масальскі.

Нічога, што ўлада топча свабоду, што гаспадарка гіне, а людзі баяцца выказаць свае думкі. Нічога што нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг апаганены і паліцыя дубінкамі выбівае ахвоту да чалавечай і нацыянальнай годнасці. Нічога, што ніводная дзяржава не прызнала вынікаў недэмакратычнага рэферэндуму. БГКТ прызнала.

Спадар Канстанцін Масальскі вельмі спачувае беларускаму народу, пішучы: „Пражылі яны (беларусы — М. К.) русіфікацыю, паланізацыю, перыяд уніі і ўсё-такі засталіся сабою. Не павучайма іх". Гэта ж славяне, „іх мова, культура, абычаі падобныя на рускія. Рэлігія таксама тая ж. Ім бліжэй да расейскага народа, чым да польскага". І тут вылазіць шыла з мяшка. Апазіцыя, і не толькі яна, хоча, каб людзям было бліжэй да сябе, да беларускага народа. Шанаваць суседа трэба, але тады, калі ён шануе нас. Маліцца можна і па-беларуску. Існуе Аўтакефальная праваслаўная царква ў Польшчы і ў іншых дзяржавах. Чаму тады не можа яна існаваць у Беларусі?

Спадар Масальскі, я разумею, што для справы трэба ладкавацца і з чортам, але каб яму яшчэ служыць? Добра, што хоць Алесь Барскі гэта зразумеў.

**Міхась Куптэль**

# Нашы карані

**CXVIII. І адзін у полі воін**

Гасподзь ніколі не пазбаўляў нашы землі свае міласэрнасці. Шчодраю рукою добрага Сейбіта засяваў іх шчодра адданымі Царкве і сваім народам талентамі. Адным з іх кагорты быў блажэнны Георгій, архіепіскап магілёўскі.

Грыгорый Каніскі нарадзіўся ў 1717 годзе ў заслужанай для праваслаўя сям'і ў Нежыне на Украіне. Пасля заканчэння славутай Кіева-Магілянскай праваслаўнай акадэміі прыняў манаскі пострыг і імя Георгій. Як выключна здольнага яго пакінулі ў акадэміі выкладчыкам і выхаваўцам моладзі, а пасля сямі гадоў бездакорнай працы яму даручылі вельмі адказную пасаду рэктара акадэміі. За рэктарства іераманаха Георгія гэтая адзіная ў Цэнтральнай Еўропе вышэйшая праваслаўная школа перажывае прыгажэйшы перыяд у сваёй гісторыі. Але калі пасля смерці ў 1754 годзе архіепіскапа Іераніма Валачанскага над адзінай у Рэчы Паспалітай праваслаўнай магілёўскай кафедрай павісла небяспека яе ліквідацыі, тады праваслаўная грамадскасць адзіны яе паратунак бачыла ў асобе рэктара Георгія. Ён быў рукапаложаны ў епіскапа і ў 1755 г. прыбыў у Магілёў ды з месца прыступіў да актыўнай архіпастырскай дзейнасці. Будзіў у людзей памяць пра родную адвечную іх веру праваслаўную, прасвятляў розумы і ўмацоўваў свядомасць праваслаўных простых сялян ды мяшчан, а таксама і знатных князёў. Клапаціўся пра падмацаванне праваслаўнага духавенства і прыток у яго новых, маладых сіл. Дзеля гэтага адкрыў у Магілёве духоўную семінарыю, а ў архірэйскай сядзібе заснаваў друкарню, якая выпускала не толькі богаслужэбныя кнігі, але таксама набожныя, даступныя для шырокага кола чытачоў дзеля іх духовага ўзмацненя.

Уладыка Георгій, дзе толькі мог, там абараняў праваслаўную Царкву. У 1765 годзе ён дабіўся аўдыенцыі ў самога караля Станіслава Панятоўскага і перад ім, у прысутнасці вышэйшых дзяржаўных саноўнікаў выступіў з гарачай прамовай у абарону праваслаўных. Затым ён падаў каралю падрабязны мемарандум пра трагічны стан праваслаўнай Царквы і яе веравызнаўцаў у краіне. Аднак нічога гэтым не дабіўся, затое нацкаваны ворагамі праваслаўя натоўп некалькі разоў намагаўся пазбавіць уладыку жыцця і толькі дзякуючы Божай апецы ды незвычайнай ахвярнасці праваслаўных ён уцалеў. І ўсё ж пад націскам еўрапейскіх краін: Англіі, Францыі, Швецыі, Даніі, Прусіі і Расіі польскі Сейм вымушаны быў заняцца злачыннымі праследаваннямі іншаверцаў у Польшчы і стварыў спецыяльную камісію для разгляду палажэння іх у краіне. Тады ўладыка Георгій праз яе дамогся многага для дабра праваслаўя. Праваслаўным дазволілі будаваць новыя і рамантаваць старыя цэрквы, засноўваць уласныя школы, не плаціць даніны каталіцкім ксяндзам ці за бласлаўленне сваіх прыхаджан таінствам шлюбу, ці за чын пахаванага нябожчыка, дабіўся дазволу на праваслаўныя хрэсныя ходы, а праваслаўным, якіх прымусам загналі ва унію, права вярнуцца ў сваю веру праваслаўную. Хаця ўдзельнікі Барскай канфедэрацыі, між іншым, выступілі супраць гэтага, то ўсё ж пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай уладыку Георгію ўдалося дамагчыся ўзаконення гэтых правоў для праваслаўных, а нават увядзення закону, паводле якога ў змешаных сем'ях хлопцы прымалі веравызнанне бацькі, а дзяўчаты — веру маці. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай уладыка Георгій выхадзіў у Пецярбургу заснаванне праваслаўнай Мінскай епархіі і на мінскай кафедры быў узведзены вучань і сябра па змаганню ўладыкі Георгія — епіскап Віктар Садкоўскі.

Памёр архіепіскап Георгій у 1795 годзе. Гасподзь уславіў свайго воіна цудам нятлення цела. Гэта было некалькі разоў пацверджана рознымі камісіямі. У 1993 годзе Сінод Беларускай Праваслаўнай Царквы залічыў свяціцеля Георгія да ліку святых Беларускай зямлі.

**Мікола Гайдук**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 460

Рэдактар: Сакрат Яновіч


# Тастамент Георгія Валкавыцкага



*Янка Жамойцін, Георгій Валкавыцкі, Віктар Швед, Міхась Шаховіч — у час шпацыру ў гайнаўскім (?) парку, у перапынку літаратурнага семінара. (Фота з сямідзесятых гадоў).*

**Ян Чыквін**

Хросным бацькам беларускага літаратурнага руху ў пасляваеннай Польшчы з'яўляецца Георгій Валкавыцкі. У 1956 годзе менавіта ён, як галоўны рэдактар *Нівы*, даў першы і найважнейшы штуршок патэнцыяльнай творчай беларускай матэрыі, з чаго і пачалася тая літаратурная дзейнасць, якая — чакана-нечакана — дала багаты творчы плён (звыш ста дваццаці апублікаваных кніг) і якой ён звыш трыццаці гадоў, як сам гаворыць у інтэрв'ю, стараўся перш за ўсё *ствараць пагоду*[1].

Гэтага факту не аспрэчваюць ні старэйшыя *белавежцы*, на рахунку якіх шмат кніг, ні малодшыя. Аднак далей канстатацыі гэтая думка нікім не развівалася. Дасюль шматгранная роля Георгія Валкавыцкага як пачынальніка беларускага літаратурнага руху не выяўлена, не ўсвядомлена належным чынам.

У мяне ж часам з'яўляецца ахвота ўвайсці, паглыбіцца ў гэтую тэму. Менавіта, што было б з намі, немалым, як ні глядзі, шэрагам цікавых паэтаў і празаікаў, каб не *Ніва* ў 50-х гадах, каб не тыя — надта тады мізэрныя, але ўсё ж такі рэальныя — магчымасці друкавацца. І што было б, каб не Георгій Валкавыцкі — чалавек падрыхтаваны да прафесійнай якраз літаратурнай працы, а не, скажам, тэатральнай, музычнай ці яшчэ якой іншай. Ці без *Нівы* і такога Г. Валкавыцкага, які *ствараў пагоду* для пачынаючых літаратараў, адбыўся б, напрыклад, празаік Сакрат Яновіч, паэты Віктар Швед, Уладзімір Гайдук, Алесь Барскі? А калі б адбыліся без *Нівы*, то ці не пісалі б яны па-польску? Магчыма, яны ды іншыя беларускія творцы, што прыйшлі ў літаратуру пад канец пяцідзесятых і на пачатку шасцідзесятых гадоў, адбыліся дзякуючы выключна таму, што Георгій Валкавыцкі падзейнічаў на іх, як рэчыва, якое ўжываецца для праяўлення нябачнага на плёнцы адлюстравання. І калі б не гэты праявіцель, патрэбны ў свой час, не было б, відаць, ні *бачнага* беларускага Сакрата Яновіча, ні Віктара Шведа, ні таго ж Алеся Барскага... Вельмі і вельмі праўдападобнай магла б быць такая сітуацыя, не будзь у Беластоку на месцы галоўнага рэдактара *Нівы* Г. Валкавыцкага. Пры чым, думаю, тут ёсць і зваротная залежнасць. Бо і Георгій Валкавыцкі ды ягоная *Ніва* не былі б тым, чым яны сталі для беларускай беластоцкай *дыяспары*, каб часопіс не меў літаратурнай восі: хто ведае — ці не найважнейшай! Пры Г. Валкавыцкім, выпускніку літаратурнага інстытута (свой дыплом ён ніколі не афішаваў[2]), *Ніва* была ў значнай меры тыднёвікам літаратурным.

Трэба ўспомніць, што на яе старонках друкаваліся нават аповесці ды іншыя *доўгія* празаічныя творы. А што гаварыць пра вершы многіх паэтаў і прызнаных беларускіх майстроў, і маладых адэптаў прыгожага пісьменства! Менавіта *Ніва* адкрывала чытачам такіх беларускіх адраджэнцаў, як Алесь Гарун, браты Антон і Іван Луцкевічы. Часам з'яўлялася інфармацыя аб эміграцыйных пісьменніках, і гэта тады як у Мінску іх адназначна лічылі ворагамі Айчыны. У *Ніву* пісалі пісьмы і слалі свае творы, між іншым, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Міхась Машара, Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Піліп Пестрак, Ларыса Геніюш, Аляксей Карпюк. Ці не гэтым шырока адкрытым вакном у родную літаратуру ствараў Георгій Валкавыцкі для нас, пачаткоўцаў, таксама спрыяльную, добрую, творчую атмасферу? Сапраўды ж, ствараў яе, тым самым — мяркую — пакідаючы сляды на дзейнасці самога руху і, магчыма, на нейкіх момантах фармавання паасобных *белавежцаў* — станоўчыя, а то і, хто ведае, ці неблагія якасці свайго характару ды ўласнага літаратурна-эстэтычнага густу.

Усе тыя тады выразна відавочныя і не відавочныя ўплывы ды залежнасці варта было б выявіць, усвядоміць, запісаць на паперы, таму што Г. Валкавыцкі фактычна адзіны з грамады беларускіх актывістаў 60-70-х гадоў вытрымаў выпрабаванне часам: зрабіў на дзіва шмат добрага, сябе для іншых ахвяруючы. Не чакаючы ні ад кога аніякай падзякі. Як мне здаецца, ён паступова, без спеху, рэалізаваў закладзеныя недзе там, глыбока ў ім, у ягонай падсвядомасці ці можа надсвядомасці, нацыянальна-духоўныя патрэбы. Рэалізаваў бескарысліва. Без гвалту, памалу, умеючы чакаць. Спагадлівы нават да малапісьменных, абнадзейваючы таксама і іх. Бо і такія, няйначай, былі яму патрэбныя ў агульнай, мяркую, не да канца ім усвядомленай нейкай канцэпцыі працы на пасадзе галоўнага рэдактара адзінай тады беларускай газеты ў Польшчы, спадкаемцы *Нашай нівы*.

У сакавіку 1993 года Георгію Валкавыцкаму споўнілася семдзесят гадоў — і палову з іх ён аддаў рэдактарскай працы ў *Ніве*, дзень за днём служачы беларускай справе ў Польшчы. Некаторыя факты, падзеі, фрагменты са свайго *даніўскага* жыцця Г. Валкавыцкі апісаў у кнізе ўспамінаў *Віры. Нататкі рэдактара*. У знешніх праявах той ягонай біяграфіі няма нібыта нічога выключнага, звышцікавага — от, звычайны, нават досыць штампаваны лёс *тутэйшага* юнака, сына малазямельнага вяскоўца: школа, ваеннае ліхалецце і зноў школа, і далейшая вучоба, каб вырвацца ў свет, пайсці ў людзі. А потым — згодна з логікай мінулай эпохі — накіраванне на працу.

Паўтараліся, аднак, толькі знешнія праявы біяграфіі маладых людзей ягонага пакалення. Бо ўнутры юнака з Белавежы, як паказвае невялікімі штрышкамі аўтар *Віроў*, сам, можа, таго і не жадаючы, выспяваў непаўторны, акрэслены тып уражлівай асобы са сваім светабачаннем. У напрузе падзей фармаваліся творчыя здольнасці. Ва ўспамінах Г. Валкавыцкі як бы мімаходзь прызнаецца ў нейкай сваёй бяссільнасці і здзіўленні: вясковага хлопца непрадбачлівымі для яго самога зігзагамі і незалежнымі ад яго завіраваннямі несла ў напрамку літаратурнай працы.

Пасля многіх гадоў, усё тое, чым займаўся студэнт літаратурнага інстытута ў Маскве, ён назаве сціпла *журналістыкай*. І сваю кнігу так і пачне: *Журналістам я стаў па наіўнасці. Відаць, прыроднай...*

Але, каб самому сабе прызнацца ў гэтым, каб дайсці да такой жыццёва мудрай высновы, трэба было мець за плячыма багаты досвед і сваіх, і чужых творчых пакут, і ўсімі фібрамі жывой душы спазнаць горкую праўду, што літаратурная праца — гэта звычайная катарга, што забаўляцца ёю ніяк нельга. Толькі наіўныя думаюць, што мастацкая літаратура *робіцца* ў вольны ад працы час, пры свяце, левай рукою, адно інстынктыўна.

У *Нататках рэдактара* Георгій Валкавыцкі паказвае, колькі каштавала яго тая наіўнасць маладзёна, які ў школьныя гады пісаў дужа пахвальныя *хатнія сачыненні*; яны служылі ў класе *узорам для іншых*. Аднак *хатнія сачыненні* і творы мастацкай, паўнацэннай літаратуры — гэта два розныя светы. Памятайце пра гэта, як бы ўскосна гаворыць аўтар *Віроў*. Памятайце, што літаратура — гэта лёс чалавека.

Хто ведае, ці не з'яўляецца гэты свядомы напамін, гэты своеасаблівы тастамент Валкавыцкага самым вартасным для многіх тых *белавежцаў*, якіх ён сам калісь шчыра, добразычліва заманьваў у літаратурныя салоны, прасіў-умольваў друкавацца ў альманахах, календарах, на літаратурнай старонцы і распешчваў надзеямі.

Амаль на наступны дзень пасля выхаду на пенсію Георгій Валкавыцкі раскрыўся як пісьменнік. Выдаў згаданую кнігу *Віры. Нататкі рэдактара*. Ён апісвае ў ёй значны прамежак часу — ад 1954 да 1988, а ў рэтраспектыве сягаючы яшчэ саракавых і трыццатых гадоў.

Кніга гэтая ўжо зараз, на маю думку, мае сваю вялікую вартаснасць, а з бегам часу яе каштоўнасць будзе неацэннай. Яна піянерская ў нашых абставінах, таму што ў ёй пісьменнік першы апісаў сваё развітанне з оруэлаўскім светам, які закончыўся для яго толькі ўчора і якога ён сам быў аднoй малаістотнай, згодна з ідэалогіяй той сістэмы, шрубкай. Хто схоча заўтра альбо праз пару дзесяткаў гадоў зразумець, што такое *Ніва* (1956-1983) і беларускі літаратурны рух у Польшчы, чым было ў той перыяд БГКТ, якая вялася ў той час палітыка Варшавы адносна нацыянальных меншасцяў і якія дзейнічалі ў Беластоку паверхі партыйнай улады, той мусіць схіліцца перш за ўсё над *Нататкамі рэдактара*. У гэтай кнізе густа-цесна ад дат, прозвішчаў, фактаў, падзей, сустрэч, дакументаў. Як бы ідучы насустрач даследчыкам нашага фрагменту беларускай літаратуры і грамадска-палітычнаму ўжо фальклору, аўтар *Віроў*, хросны бацька *Белавежы*, расшыфроўвае многія псеўданімы і крыптонімы шмат якіх *ніўскіх* творцаў. Дае эсенцыяльныя, вельмі трапныя характарыстыкі вёрткім беларускім дзеячам, журналістам, паэтам. Уводзіць у клімат таго мінулага, якое — калі працаваў над кнігай — яшчэ ж і не было цалкам мінулым. Маючы праз столькі гадоў магчымасць зблізку, вока ў вока, назіраць за ёю, камуністычнай пірамідаю, і за тымі, хто быў яе спружынамі і дзейснай сілаю, Георгій Валкавыцкі паступова, з гадамі адчужаўся ад яе, усё шчыльней замыкаўся ў сабе.

Таму менавіта ў ягонай кнізе ўспамінаў няма плачу, настальгіі па адышоўшым. Ёсць выразная перспектыва погляду на той час з другога берагу, з берагу чалавека ўмудронага гадамі, які аднолькава спакойна прымае і страты, і перамогі — свае і чужыя. І тым аўтар *Віроў* значна апярэдзіў сваіх аднагодкаў, многіх беларускіх дзеячаў, якія завязлі псіхічна ў мінулай эпосе. І тым таксама пацвердзіў, праз сорак гадоў, свае правы і надалей звацца бацькам і першым настаўнікам беларускага літаратурнага руху ў Польшчы.

---

[1] Гл. *Stworzyłem etat poety*. Rozmowa z Jerzym Wołkowyckim, (у кн.) Teresa Zaniewska, *A dusza jest na Wschodzie. Polsko-białoruskie związki literackie*, Białystok 1993, s. 84.

[2] Чаму не афішаваў, пра гэта Г. Валкавыцкі гаворыць сам у згаданым інтэрв'ю. Тамсама.

**На гэтым, чатырыста шасцідзесятым, нумары заканчваецца існаванне Літаратурнай старонкі „Белавежа".**

**Далейшае яе працягванне зрабілася немагчымым (па прычынах банальна вядомых). Не месца тут і нагода дзеля іх разгляду.**

**Старонка — блізу саракагадовая равесніца Беларускаму літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа", юбілей якога адзначацьме ў чэрвені. Гэта прыгожы ўзрост і немалыя, адначасна, заслугі перад нацыянальнай літаратурай, якімі можна і трэба ганарыцца.**

**Сакрат Яновіч**



*Сакрат Яновіч, Ян Чыквін, Валянціна Аколава, Анатоль Кудравец — і крайні — Алесь Разанаў ля ўвахода ў рэдакцыю літаратурнага штомесячніка „Нёман" (Мінск, палова васьмідзесятых гадоў).*

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


# У VIII „ц" ёсць індывідуальнасці



*Клас VIII „ц".*

Сустрэчы з васьмікласнікамі заўсёды бываюць трывожнымі. Неўзабаве ж прыйдзецца развітацца. Ці не забудуць яны нашага сяброўства і беларускай мовы? Ці на далейшай жыццёвай дарозе ўспомняць яны „Зорку"? На шчасце большасць вучняў класа VIII „ц", што у бельскай „тройцы", збіраецца ў беларускі ліцэй. Там будзе нагода і далей вывучаць родную літаратурную мову, гісторыю, падпісацца на „Ніву".

— Васьмікласнікі звычайна губляюць энтузіязм для беларускай мовы, — кажа Валянціна Бабулевіч, якая ад другога класа выкладае родную мову ў гэтым класе. — Аднак заўсёды ёсць цікавыя індывідуальнасці, для якіх беларускія справы важныя, — кажа настаўніца.

У VIII „ц" вучыцца таленавітая Ёля Антанюк, лаўрэатка II Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Ёля пачала пісаць вершы ў трэцім класе. Але як скрытная і сціплая дзяўчына ніколі не адважылася даслаць іх у „Зорку".

Усе карэспандэнты „Зоркі" наогул дзеці адважныя і амбітныя, — кажа В. Бабулевіч. — Напісаць у газету і падпісацца сваім прозвішчам каштуе многа смеласці і нерваў. І толькі нямногія рашаюцца на такі крок.

Конкурс паэзіі і прозы мае добрую прыкмету — ананімнасць. Гэта падбадзёрыла нясмелых маладых энтузіястаў літаратуры, каб прыняць удзел. За намовай настаўніцы да конкурсу прыступіла і Ёля.

— Яна прынесла сшытак з дзесяццю творамі і мы супольна рашылі выбраць **найлепшыя**, — успамінае настаўніца. — Мне падабалася, што Ёля не піша спецыяльна на конкурс, а толькі для сябе. Яна таксама як адзіная зразу пачала пісаць на беларускай мове. А большасць дзяцей піша найперш па-польску і пазней (часам для конкурсу), перакладае на беларускую. Цешыць, што Ёля Антанюк зноў падрыхтавала новыя вершы і прыступіць да конкурсу.

У VIII „ц" вучыцца Марцін Канаховіч, сябра брацтва праваслаўнай моладзі і тэатральнай групы „Аўгустова". Марцін ды Ілёна Кубаеўская і Марыля Бэнэдзюк удзельнічалі ў Сустрэчах „Зоркі". Дзяўчаты прынялі ўдзел у прадметным конкурсе беларускай мовы. Пашчасцілася Марылі Бэнэдзюк. Зараз яна як лаўрэатка можа паступіць у любую сярэднюю школу ў Польшчы. Марыля думае пра беларускі ліцэй.

У VIII „ц" 27 навучэнцаў. Выхавацелькай класа з'яўляецца Альжбета Навацкая. Большасць васьмікласнікаў выпісвае і чытае „Ніву". Пэўна таму сустрэча з „Зоркай" праходзіла ў вясёлай і цікавай атмасферы.

— Хай шкадуюць тыя, што ўцяклі з урока, — адзначыў хлопец з першай парты. — Мы будзем у газеце!

**Зорка**

*Фота Г. Кандрацюк*



*Ілёна Кубаеўская (злева) і Марыля Бэнэдзюк.*

Іаланта Антанюк

## *Канцэрт*

Белая блузка
ляжыць на крэсле
Туфлі чорны ўбор
пры буфеце
Хуста смеху цепяў стос
ужо гамоняць
Яшчэ люстра і хустка
ужо ападае

Сцэна святло бліскае
побач рампы
Шум і смех — хмара густая
зарывае
Мікрафон дае голас —
канцэрт пачынае



## *Самотны*

Чаму ён ходзіць адзін
чаму ён хавае твар
чаму ён маўчыць
Штодзень вяртаецца адзін
штодзень сядае там
дзе нікога няма
дзе ён думае што ён адзін

часам падумаць аб сабе
можа пакінуць свет
часам вярнуцца ў мары
можа ўжо павесялець

Чаму ніхто не любіць яго
Калі ён светлы патрон
калі ён знойдзе свой дом
і ніколі не будзе сабой

Часам падумаць аб зорах
можа пакінуць час
часам вярнуцца ў сонны свет
можа хтосьці гляне на нас

# Велікодныя гульні

Вялікдзень — самае прыгожае свята. Яно прыпадае ў найпрыгажэйшую пару года — вясну. Людзі наводзяць парадкі ў дамах, сядзібах. А гэта таму, што Вялікдзень гэта адснова жыцця — Хрыстос Уваскрос з умерлых.

Не можна нават падумаць, каб Пасха была без крашаных яек. Яйка побач вады, агню і веры гэта важны сімвал Вялікадня. А свянцоныя яйкі павінны прабываць у доме цэлы год. Яны зберагаюць дом ад розных бед і няшчасцяў. З асвянцоным яйкам выходзілі ў поле, каб яно сцерагло пасевы ад граду і ветру. Давалі яго хворым, а шкарлупінкамі кадзілі кароў, каб засцерагчы іх ад хвароб. Дзеці, а нават дарослыя іграюць крашанымі яйкамі ў выбіткі і жалубка. Гэтая гра цікавая для дзяцей і цяпер.

**Аліна Сіроцкая, ПШ у Чыжах**

# Сымон Будны

Скупое зімовае сонца свеціць над Нясвіжам. У вянку старых клёнаў і ліп стаіць помнік. Павее ветрык і белыя крышталікі інею асыпаюцца на бронзавага Сымона Буднага, ярка ўспыхваюць на сонцы. А Сымон Будны горда трымае ў адной руцэ кнігу „Катэхізіс", а другой нібы перагортвае яе старонкі, запрашае пачытаць.

Непадалёку ад помніка знаходзіцца друкарня імя Сымона Буднага. Побач — славуты касцёл, якому чатырыста гадоў, старыя мураваныя будынкі. Здаецца, на міг трапляеш у той час, калі жыў у Нясвіжы чалавек, які так многа зрабіў для нас, беларусаў. Сымона Буднага справядліва называюць вялікім гуманістам, асветнікам, філосафам, філолагам, гісторыкам. Прадаўжальнік справы Францыска Скарыны, ён жыў у эпоху Адраджэння, калі вялася барацьба новых поглядаў і ідэй з тымі, што аджылі свой век. Сымон Будны лічыў, што ўсе людзі — багатыя і бедныя — павінны быць роўныя перад законам, перад судом. Каб шчасліва жыць, патрэбны мір. Войны падзяляў на справядлівыя, калі адстойваюць сваю Радзіму і на заваёўніцкія, злачынныя. У той далёкі час рэлігія моцна ўплывала на жыццё людзей. Сымон Будны бачыў шмат недарэчнага ў вучэнні багасловаў і смела выкрываў іх. Ён быў пераканаы, што душа памірае разам з целам, што на тым свеце няма ні пекла, ні раю. Трэба, каб кожны чалавек у жыцці кіраваўся розумам і мысленнем, а не страхам перад боскай карай. Распаўсюджваў свае перадавыя погляды Сымон Будны па-рознаму. Ён перапісваўся з вядомымі вучонымі, якія жылі ў Расіі, Польшчы, Англіі, Германіі і ў іншых краінах. Закончыўшы вучобу ў Кракаўскім універсітэце, працаваў настаўнікам у Вільні.

# Вяселле

Вяселле ў праваслаўных ладзяць найчасцей у нядзелю. Перад вяселлем бацюшка чытае ў царкве тры разы так званую запаведзь (хто, з кім і калі бярэ шлюб). Месяц або два тыдні перад вяселлем маладыя запрашаюць сваіх гасцей. Найчасцей у суботу, ці нават у нядзелю раніцай маладыя са старшымі сватамі і дружкамі едуць у ЗАГС на запісы. У нядзелю, на запрошаную гадзіну (пераважна, дванаццатая, першая) з'яўляюцца госці. Маладая, малады ўжо адзетыя (маладую строяць дружкі ў белую сукенку і вэлюм). Калі ўсе госці збяруцца, маршалак просіць за сталы, на пачастунак. Госці ядуць і п'юць. Не могуць гэтага рабіць маладыя. Перад шлюбам старэйшыя жанчыны спяваюць маладым спецыяльныя абрадавыя песні. У некаторых вёсках госці кідаюць на талерку грошы на так званае *ўспамаганне*. Калі маладая пара выходзіць з хаты, бацькі іх благаслаўляюць. Госці выстройваюцца ў вясельны аршак. Наперадзе маладая-малады з дружбантамі, а за імі ўсе госці. Вясельны бацька абыходзіць аршак тры разы і кропіць гасцей свянцонай вадой. Вясельны аршак, з музыкай наперадзе, рушае ў царкву. Старшая дружка маладой-маладога кідае цукеркі людзям, якіх спаткаюць на дарозе. Пасля цырымоніі вянчання бацюшка, а пазней госці віншуюць маладую пару шчырыя пажаданні. Затым цэлае вяселле вяртаецца ў дом маладой. На парозе хаты маладых вітаюць бацькі з соллю і хлебам. Пасля сядаюць за сталы, п'юць за здароўе маладых, ядуць, спяваюць, танцуюць, словам — весяляцца. Потым праз дзве-тры гадзіны маршалак склікае ўсіх гасцей на *перапіванне*. Першыя ідуць бацькі маладых, даюць грошы ці падарак і віншуюць сваіх дзяцей. За імі ідуць сваякі, дружкі, сваты, калі ўжо ўсе перап'юць, пачынаецца забава. Апоўначы адбываюцца *адчэпіны*, маладая скідае свой вэлюм і кідае яго танцуючым дзяўчатам. Дзяўчына, што першая зловіць вэлюм, першая выйдзе замуж. Таксама малады кідае сваю „мушку". Пасля гэтай забавы ўсе ідуць на вячэру. Раніцай госці разыходзяцца дадому. На другі дзень некаторыя ідуць яшчэ на паправунак.

**Аліна Сіроцкая,**
**VII кл. ПШ у Чыжах,**
**Паўліна Кандрусік,**
**IV „д" бельскай „тройкі"**




*Мал. Ані Бачынскай і Монікі Якімюк*

### Хованкі

Раз, два і тры.
Дзе тут я,
а дзе ты?
На плоце,
кошка сядзела.
Дзе хаваюцца дзеці —
глядзела.

### Зверы

У лесе звяры,
Рыхтуюцца да вясны.
Толькі мядзведзь кашлаты, —
не вылазіць з ямы-хаты.

### Размова

Хто ты?
— Я хвіліна.
Хто ты?
— Я гадзіна.
Хто вас мерыць і чым?
— Гадзіннік... і то не адзін.

### Пра Мішку

Сшыткі, алоўкі і кніжкі...
Уцяклі ад другакласніка Мішкі.
А чаму яны так зрабілі?
Бо яго рукі пра мыла забылі.

**Іаланта Грыгарук**

# Усюды абліваюць

Абліванне вадою гэта неадлучны абрад, звязаны са святкаваннем Провадаў, што адбываліся на другім тыдні пасля Вялікадня. Вада, якая з'яўляецца сімвалам жыцця, мела берагчы дзяўчат ад хвароб і прыцягваць кандыдатаў на мужа. Хаця маладыя дзяўчаты не паказвалі, што чакаюць, каб бегалі за імі хлопцы, дык ніводная не хацела застацца сухою. Зараз праведныя гульні па вёсках сустракаюцца рэдка, а ў горадзе паўсюдна абліваюцца вадою на другі дзень каталіцкіх святаў Вялікадня.

Сёлета гайнаўскія дзеткі ўжо з самай раніцы бегалі з бутэлькамі і аблівалі не толькі сяброў, алеь і выпадковых пешаходаў і машыны. Каб больш дакладна трапіць, бегалі з вёдрамі і пластмасавымі мяшочкамі з вадою. Адны ўспрымалі гульні са смехам, другія лаяліся, калі трэба было сушыць вопратку.

**(лм)**

# Суп з каменя

***(англійская народная казка)***

Вяртаўся аднаго разу стары чалавек з падарожжа дадому. Ішоў ён адзінокі, стомлены і галодны. Сонца хілілася ўжо да захаду.

— Цямнее, — падумаў ён. — Не паспею дамоў на вячэру.

І ў той жа момант ён заўважыў незнаёмую жанчыну, якая ішла ў свой дом. — Якое шчасце, — уцешыўся. — Папрашу, можа дасць паесці.

Але жанчына, учуўшы просьбу незнаёмага вандроўніка, здзіўлена адказала: „У мяне няма нічога табе даць" і накіравалася ў хату.

— Пачакай, — добра думка прыйшла ў галаву старому чалавеку. — У мяне ёсць для цябе сюрпрыз. Усё чаго мне трэба гэта крыху вады. Я ўмею зварыць суп з каменя.

— Суп з каменя? — здзівілася жанчына. — Ніколі не чула я пра такое. — Як ты яго варыш?

Мужчына падняў з зямлі камень.

— Вось! Гэта і суп з каменя, трэба толькі наліць вады ў вялікі гаршчок, а потым пакласці туды гэты камень. Калі вада закіпіць, суп будзе гатовы.

Жанчына ніколі раней не чула пра такую страву, таму вельмі захацелася ёй папрабаваць гэтага супу. Яна папрасіла вандроўніка зайсці ў хату. Паставіла гаршчок на агонь, наліла вады, а мужчына ўкінуў туды свой камень. Калі вада закіпела, мужчына пакаштаваў страву і сказаў:

— О! Добры. Смачны суп. Але ж некалькі морквач паправіць яшчэ яго смак.

— У мяне ёсць морква, — успомніла сабе жанчына. — Я прынясу.

Пах супу прывабіў у хату яе сына.

— Нешта смачнае варыцца.

— А гэта ж каменны суп, — паведаміла яму маці. Папрабаваўшы, хлопчык сказаў:

— Надрэнны, але ж некалькі бульбін паправіць яго смак.

А калі хлопчык нёс бульбу ў хату, убачыла яго сястра.

— Што сёння на абед? — спытала яна.

— Суп з каменя. Вельмі смачны, хадзі, паспрабуеш.

Дзяўчынка зайшла ў хату і калі яе брат крышыў бульбу, яна пакаштавала супу.

— Ну, добры, — сказала. — Але будзе яшчэ лепшы, калі б укінуць крыху курацiны. — І паклала ў каструлю кавалак мяса.

Неўзабаве суп быў гатовы.

— Ідзіце, дзеці, і паклічце бацьку, — загадала маці.

— Ай, як штосьці смачна пахне, — сказаў ён яшчэ на парозе. — Што гэта?

— Каменны суп.

— Суп? То я прынясу хлеба.

Сям'я села за стол і запрасіла вандроўніка.

— Ты навучыў нас варыць каменны суп. За гэта мы просім цябе паабедаць з намі.

Супу было вельмі многа і сям'я рашыла запрасіць яшчэ суседзяў. Калі ўсе наеліся дасыта, гаспадыня сказала госцю-вандроўніку:

— Дзякую за добры абед. Незвычайны твой суп, чалавеча.

— Калі ласка, вазьміце, добрыя людзі, гэты камень у падарку. З добрага каменя атрымліваецца добры суп, — адказаў вандроўнік і таямніча ўсміхнуўся.

*З англійскай мовы пераклала*
*Яніна Кандрацюк*

# Польска-беларуская крыжаванка № 18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ ▼ | | | Lira | Piękno | ▼ | 📖 | Tak | Lipa | ▼ | Los / Talia |
| | Zakątek / Wieloryb | Zupa | ▼ | Lakier | | Las olszynowy ▶ | ▼ | ▼ | | ▼ |
| | Siła ▶ | ▼ | | ▼ | | List ▶ | | | | |
| Zawilec ▶ | | | | | | | | | | |
| Wystawa ▶ | | | | | | | 📖 | | 📖 | |

**Адказ на крыжаванку н-р 14**

Жыла, жах, лаза.
Жыжа, лаз, саха.

Лозунг крыжаванкі Касі Леанюк: **Спеў жаваранка**.

Узнагароды — каляровыя жэлейныя аўтаручкі — выйгралі: **Пятрусь Янкоўскі** і **Івона Леанюк** з Бельска-Падляшскага, **Аля Гацута** са Старога Беразова, **Дарота Дарашкевіч** з Цісаў. Віншуем!

Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.



Талон „Зоркі" № 18
03.05.1998

Якія мы людзі

# Самаход

Мела я, як кажуць, святое жыццё. Ездзіла старэнькім „Фіатам”-125, і ніхто мяне не чапаў, не правяраў. Усім я была добрая, і ніхто мне не зайздросціў. Праўда, некаторыя дзівіліся, што ў сённяшнія часы я езджу такой дапатопнай маркай, але былі і такія, што шчыра мне спачувалі.

А што нікому я не была завалай на шашы, сведчыла б і тое, што на працягу дваццаці двух з паловай гадоў усяго адзін-адзіны раз я заплаціла мандат, бо не зашпіліла рамнёў. Адным словам, было мне добра, і ўсім было добра са мною.

Ну, але намовілі, і новы, бліскучы самаход з „бартавым камп’ютэрам” ужо стаяў у маім гаражы, выцесніўшы заслужанага „Фіата” ў суседаў бокс. Усё камп’ютэр будзе рабіць за мяне, цешылася я. Не трэба адчыняць капота, хіба што каб даліць вадкасці для мыцця шыб: усё іншае рэгулюецца само. Націснеш гузік — адчынілася акно, націснеш іншы — зачынішся ў сярэдзіне. Калі б здарыўся выпадак — выскачыць паветраная падушка. Крэсла — рэгулюй як хочаш, нават робіцца падушка пад хрыбет. Ну, а галоўнае дык гэта тое, што ўсе дзверы, і багажнік, і капот адчыняліся і зачыняліся пры націсканні ключа, які чалавек трымаў у руцэ. А яшчэ ж электронны кандыцыянер! Во гэта дык цуд! Можаш у машыне наставіць тэмпературу, якую хочаш, і дзьмуць табе будзе, у якое хочаш месца. А на экране — гадзіна і тэмпература паветра звонку. Пра розныя „абээсы” і „імабіляйзеры” ўжо не кажу, бо мала ў іх разбіраюся.

Што датычыцца хуткасці — паэзія! Дзвесце сорак можна выцягнуць. Ледзь дакранешся на шашы да педалі хуткасці — сто дваццаць, сто сорак. Божачкі, дзе ж я буду так хутка ездзіць! А паваротлівы які! Здаецца, што на адным месцы гатоў круціцца.

Я ведала, што цяпер мушу асцерагацца: паліцыя „любіць” прыгожыя самаходы. Не магу ездзіць, не прышпіліўшы рамнёў. Святло заўсёды, каб было ўключана (пачала ездзіць у лютым — уключанае святло яшчэ абавязвала). Сачыць, каб хуткасць была ў норме. Паркаваць на пэўным месцы, а перад пераходам для пешаходаў стаяць і чакаць, мо хтось яшчэ надумаецца перайсці вуліцу. Чырвонае святло — „стоп”, а нават „стоп” яшчэ пры жоўтым (а не так, як раней, калі, як казаў муж, я не „з’язджала” з жоўтага святла, а „ўязджала” на яго).

Першы раз мы выправілі праехацца новым самаходам у напрамку Супраслі, а мо і далей, у Крынкі. Там рух невялікі, а шаша някепская.

Ужо пад’язджалі да Крынак, калі, як з-пад зямлі, выраслі перад намі пагранічнікі. Стоп! У чым справа? А, проста кантроль. Можа самаход крадзены. Мо хтосьці хоча пекакінуць яго за граніцу...

Божа мой! Усяго адзін раз затрымала паліцыя мой стары „Фіат”, думаючы, што я яго ўкрала. Я тады так спяшалася на нейкі фільм у тэлебачанні, што гнала праз агароды, ды даволі хутка. А тут — за першым разам.

Каго везяце? Сям’ю, кажу я, глянуўшы дыскрэтна, ці і ззаду ўсе прышпілены рамнямі. Усіх пералічыць! Ну, дык я пералічыла. Адзін з пагранічнікаў усё запісваў. А куды едзеце? Праехацца, кажу. Але да каго?

Спачатку мільганула ў мяне думка, каб сказаць, што да Сакрата. А пасля я засумнявалася: а Бог іх ведае, ці ён у іх сёння „кацірэцца”. Можа, мне гэта яшчэ больш пашкодзіць... Ну, дык растлумачыла я вайскоўцу, што каб праехацца ў Крынкі, неабавязкова мець там кагосьці.

А дарма, бо можа адпусцілі б нас хутчэй. Убачыўшы ў маім дакуменце маю прафесію, „вапіст” спытаў, у якой газеце я працую. У „Ніве”, кажу. Во-о-о, заўсміхаўся ён, дык я ж пабач жыву. А да самахода, пэўна, фірма далажыла? Не, запярэчыла я, — муж. Фірма наша ахвотна б яшчэ ў каго заняла.

Ужо іншым тонам пагранічнікі звольнілі нас, а ўсе ў маім самаходзе пачалі крычаць, як заўсёды, на мяне, што, пэўна, кепска ехала.

Ад гэтага пачаліся мае няўдачы, а мо мне толькі так здавалася. Хачу праехаць цераз пераход, а там ідзе, шпацыруе парачка. Убачылі мяне — спыніліся і пачалі пасярэдзіне вуліцы цалавацца.

Хачу асцярожна (шкада ж самахода) павярнуць налева, даўшы знак, а тут, як пярун, падлятае з левага боку іншая машына, якая едзе прама, ледзь не абцёршыся аб мяне.

Усе на гвалт абганялі мяне, а найчасцей „малюхі”, даючы мне зразумець, што я — „ламага”. Дзіва, што чалавек едзіў як па гарачых вуглях.

Пару разоў нехта стукнуўся ў лоб, паказваючы на мяне, а я нават не ведала, за што. Калі аднаго разу я выехала з вуліцы Влукенніцай на пустую вечарам вуліцу Палескую, а праз момант дагнаў мяне нейкі „Паланез” і шугануў злева направа перад маім носам, пастукаўшы ў лоб пры гэтым, калега Андрэй Казяра з „Падляшскага” сказаў: „Не ведаеш, чаму? Бо твой самаход прыгажэйшы!”

Разумны чалавек сказаў бы: якія гэта няшчасці!

Але на трынаццаты дзень майго „бушавання” па вуліцах Беластока і прыгарадных дарогах я затрымалася на паркінгу перад будынкам Ваяводскай управы на вуліцы Міцкевіча. Вельмі спяшалася на Ваяводскі сеймік, дзе ўручалі ўзнагароды пераможцам у рэйтынгу раённых газет.

Месца было мала, і мая „Лагуна” ледзь уціснулася ў дзірку між іншымі самаходамі. Я і сама бачыла, што заняла замнога месца на тратуары, але знаёмы дырэктар мяне пацешыў: „Лепш атрымаць мандат, чым дастаць па руфе самахода”.

Мандат мог бы каштаваць два старых мільёны, а заплаціла я ўсяго сорак новых злотых. Гарадскі ахоўнік парадку пераконваў мяне, што я амаль зрабіла бізнес. Ведаю, што вы палюеце на лепшыя самаходы, кажу, а ён мне: „Што, замала заплацілі?!”

А пасля, выйшаўшы з тэатра пасля спектакля, я знайшла заткнуты за выціранчку праспект. Глянула: нейкая будаўнічая фірма рэкламавала свае паслугі. У праспекце красаваліся фешэнебельныя вілы і іншыя будынкі. Божа, якія аптымісты! Я пачала рагатаць і настрой у мяне палепшаў: дагэтуль пад выціранчкамі майго старога „Фіата” рэкламаваліся адно фірмы, якія змагаліся з молям, клапамі і тараканамі, або тыя, што са старых дываноў рабілі новыя. Ну, і яшчэ тыя, якія шукалі наіўных, што хацелі б выйграць цудам так званы мільён.

**Ада Чачуга**

# Жыццёвы шлях вясковага мастака

**У вёсцы Крывая Бельскай гміны жыве Анатоль КРАЎЧУК — 74-гадовы пенсіянер, ветэран вайны і народны мастак-жывапісец. Лейтматыў ягоных карцін — сельскія краявіды і даўнія спосабы апрацоўкі зямлі.**



*Анатоль Краўчук з аўтапартрэтам.*

Анатоль Краўчук вядомы на Беласточчыне як народны мастак, а ягоныя працы не раз атрымоўвалі вылучэнні на аглядах самадзейнай творчасці. Аднак у роднай вёсцы не знаходзіць ён прызнання і калі выходзіць з палітрай на натуру, аднасяльчане з насмешкай гавораць, што зноў ён з глузду з’язджае. Я, які таксама маю кантакт з мастацтвам, з пашанай стаўлюся да багатага ўнутранага свету гэтага звычайнага беларускага селяніна, які пасля цяжкай, стамляльнай работы знаходзіць час і натхненне для творчай працы, каб адлюстраваць прыгажосць прападаючага ўжо сельскага краявіду.

— Малюю ўжо больш за 65 гадоў, — успамінае Анатоль Краўчук. — Захапленне малюнкамі з’явілася ў мяне ўжо ў дзяцінстве, калі я яшчэ не хадзіў у школу. Помню, як бацькі ў 1930 годзе купілі сястры швейную машыну, якая была запакаваная ў паперу, і я ўсю гэтую паперу зарысаваў. Тады паперы не было столькі, як сёння, а мы жылі бедна. Бацька быў пастухом. Жылі мы ў маленькай, старой хатцы, а было нас пяцёра дзяцей. Неўзабаве, калі пайшоў я ў школу, памёр наш бацька.

Будучы вучнем другога класа маляваў я ўжо акварэллю, а ўжо пры саветах, у 1940 годзе — алейнымі фарбамі. Потым прыйшлі немцы і 9 мая 1943 года забралі мяне на прымусовыя работы ва Усходнюю Прусію — недзе паміж Кёнігсберг і Бранеберг. Там я два гады працаваў у цагельні.

20 сакавіка 1945 года перанялі нас рускія. Мяне ўзялі ў Чырвоную Армію і направілі на фронт. 28 красавіка апынуўся я на прадмесці Берліна. Пасля вайны вярнулі нас у Савецкі Саюз і ў 1946 г. ажаніўся я з Вольгай, родам з-пад Гомеля. Жылі мы за Уралам у Златаусце, а потым пераехалі ў Перм на рацэ Каме, каб у канцы апынуцца ў Любані на Беларусі. На свет з’явіліся дзеці. Жыць тут было лягчэй, але вярнуцца ў Польшчу было нельга. Жыў я з сям’ёю ў Савецкім Саюзе адзінаццаць гадоў і вярнуўся ў родную вёску Крывую 2 снежня 1956 года ў рамках рэпатрыяцыі.

Мой старэйшы брат падчас вайны папаў у нямецкі палон, а пасля вызвалення выехаў у Бразілію. Не бачыў я яго ад 1943 года, толькі лісты пішам адзін аднаму. Пасылаю яму ў Бразілію нашы беларускія газеты і календары, бо ён іх з нецярплівасцю чакае. Хацелася б пабачыцца з братам перад смерцю, толькі білеты на самалёт вельмі дарагія. Мая пенсія надта ж невялікая, а і брат жыве таксама сціпла.

Пасля вяртання ў Крывую працаваў я ў мясцовым калгасе, а потым стаў шафёрам у Бельску. Хаця праца была цяжкая, знаходзіў я час на маляванне. Вяскоўцы абыякава ставяцца да карцін, але людзі, якіх сустракаю на выставах, маюць іншы падыход да мастацтва. На Ваяводскім аглядзе самадзейнага мастацтва двойчы мяне ўзнагароджвалі — у 1987 і 1994 гадах. Некаторыя зайздросцілі мне. Кожны жывапісец мае сваю тэхніку працы, свой уласны погляд, уяўленне і падыход да мастацтва. Калі ў цябе няма натхнення, нічога не атрымаецца. Гэты стан цяжка выказаць словамі. Калі захапляешся нечым, калі цябе ўражвае харавство, то нават гаспадарка становіцца менш важнай і нават самая цяжкая работа не перашкодзіць узяць у рукі палітру і пэндзаль. Часам малюю ноччу, напрыклад, аўтапартрэты. Добры жывапісец можа працаваць і пры свечцы, бо ён ведае колеры, і ўдзень можа іх падправіць. Тэма маіх карцін датычыць вясковых краявідаў, рэлігійных сюжэтаў і партрэтаў.

З 1984 года я на пенсіі. Цяпер малюю менш, затое больш увагі адводжу грамадскім справам. Чатыры гады быў я сакратаром гміннага гуртка ветэранскай арганізацыі ЗБоВіД у Орлі, а зараз займаюся ў ветэранскім гуртку ў Бельску, паколькі наша вёска змяніла сваю адміністрацыйную прыналежнасць.

Мастацкія традыцыі ў сям’і не прапалі. Мая ўнучка Эліза вучыцца ў III класе Пластычнага ліцэя. Вялікіх мастацкіх планаў у мяне няма, але часам думаю намаляваць бітву каля Орлі падчас II сусветнай вайны. Мабыць, намалюю, бо натхненне можа прыйсці ў любую хвіліну...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Святая Гара Грабарка

[1 ☞ працяг]

масць атрымала ў час мору (эпідэміі), калі павальна паміралі людзі на тэрыторыі сённяшняга Падляшша і іншых рэгіёнаў. Насельніцтва пакідала тады гарады і вёскі. Рымска-каталіцкі плябан выехаў з Сямятыч у фальварак Цацэлі. Уніяцкі святар Павел Смаленскі падаўся з хрэсным ходам на Святую Гару Грабарку. Ці гэта быў толькі выпадак? У традыцыі захавалася памяць аб цудадзейнай іконе Спаса і таму туды менавіта пайшлі з малітвай. На памятку паставілі капліцу (ці першую?). Візітацыя сямятыцкай царквы ад 1726 года сцвердзіла: *a w Moszczonej lesie nazwanym e Tey̌że kolacyi Siemiatyckiej jest kaplica Nowa pod tytulem Przemienienia Pańskiego zalożona. Ta kaplica o dwóch oknach pod Dachem tarcicowym z wierzchu z krzyżykiem drewnianym Na którą ociec Siemiatycki za wszelką appaerencyą Cerkwie Siemiatyckiey zieżdża do czasu.* Некаторыя даследчыкі сумняваюцца, ці патрон царквы — Праабражэнне Гасподняе раўназначнае Спасу. Бо паводле традыцыі Усходняй Царквы звычайна святкаванне Спаса мае шырэйшы абсяг і датычыць 1, 6 і 16 жніўня (паводле старога стылю), якое ў народзе завуць Першы, Другі і Трэці Спас, а пост гэтага перыяду завецца Спасаўкай.

Яшчэ ў XVIII стагоддзі зноў будзе пабудавана капліца на Святой Гары Грабарцы. Візітацыя сямятыцкай царквы ад 1789 года так апісвае новазбудаваную капліцу: *drewniana niedawno* ***wystawiona na miejscu starej kaplicy*** (вылучэнне аўтара) *porządnie tarcicami pokryta dokola prezbiterium przystawiona kruchtą mająca w sobie okien 7 w olów oprawionych z chórem porządnym.* Пералічваюцца таксама іконы: Праабражэння Гасподняга, Святой Тройцы, Багародзіцы і Святога Міхаіла. У згаданай візітацыі ўспамінаецца не Грабарка, а толькі Машчона, паколькі капліца знаходзілася над рэчкай Машчонай. Як месца знаходжання капліцы часта згадваецца Сумішчына (цяпер Шумілаўка — прыналежная назва ад наймення Шуміла), а таксама ўрочышча Трасцянец — ад назвы ручайка, які плыве побач гары, дзе сёння знаходзіцца цудадзейная крыніца-студня. У адлегласці 2 км ад Святой Гары знаходзіўся фальварак Грабарка. Гэтая тэрыторыя была слаба населена і толькі над рэчкай Машчонай узніклі млынарскія пасяленні — сённяшнія Аксютычы, Паўловічы, Вакуловічы, Сычы, Гамоты, Кудзелічы. Візітацыя ад 1804 года адзначае, што *do cerkwi parochialnej Siemiatyckiej należy kaplica w Trościeńcu pod tytulem Przemienienia Pańskiego.* Як бачым **месца культу** пад назвай **Святая Гара Грабарка** ў розны час прымала назвы розных мясцовасцей і ўрочышчаў (аб чым сведчаць захаваныя дакументы), аднак заўсёды знаходзілася яно ў арбіце сённяшняга санктуарыя.

Пасля вяртання уніятаў на ўлонне Праваслаўнай Царквы свята Спаса адзначалася далей. Згаданы ўжо Квярцэстус так у 1858 годзе апісвае царкву: *драўляная, вельмі ўбогая, але слаўная сваёй веліччу і цудоўнымі аздараўленнямі. (...) Сцены гэтага праваслаўнага храма моцныя, але даху амаль не было. (У 1857 г. пакрылі саломай). Падлогі ў ёй няма зусім. (...) Іканастас састаўляюць толькі чатыры старыя іконы руска-візантыйскага стылю.* Пасля 1839 года некаторыя стараліся паменшыць значэнне гэтага культу. Менавіта гэты ж Квярцэстус так апісвае само святкаванне Спаса: *Некалькі тысяч вернікаў удзельнічалі ў багаслужбе, служыліся літургіі, малебны, акафісты ўсе тры дні.* Капліца на Святой Гары належала Сямятыцкаму прыходу і яго абавязкам было захоўваць капліцу ў адпаведным стане. У 1884 годзе пачалася пабудова царквы. Для гэтага паслужыла драўніна і матэрыял з разабранай Уваскрэсенскай царквы ў Мельніку. У хроніцы сямятыцкай царквы з гэтай нагоды было напісана, што *пачынаючы з 1884 года ў царкве былі збудаваны новыя сцены, столь, падлога, фундаменты, дах і іканастас пры адначасным пашырэнні інтэр'ера царквы.* Сямятыцкі настаяцель а. Іосіф Герміновіч падчас рамонту сустрэўся з варожай прапагандай „з-за Буга", якая прадвяшчала, што царква праваліцца скрозь зямлю. Праваслаўныя вернікі з вялікай ахвярнасцю дбалі пра свой храм, аснашчалі яго ў цяжкі час сусветных войнаў і ў пасляваенны перыяд. На шчасце прароцтва да канца не збылося, хаця царква з 1884 года была ў 1991 годзе спалена, але „гэроем" не з-пад Вены.

У 1947 годзе з блаславенства архіепіскапа Цімафея манашка Марыя (Камстадзіус) заснавала на Святой Гары Грабарцы жаночы манастыр св.св. Марфы і Марыі. Год пазней была пабудавана царква Іконы Божай Маці „Усіх Тужлівых Радасць" разам з памяшканнямі для сясцёр. У 1978-1980 гадах быў узведзены манастырскі корпус разам з трапезнай і царквой св. Варвары. Сама Святая Гара Грабарка стала месцам паломніцтваў праваслаўнай моладзі ў Польшчы. На месцы згарэлай царквы ўзведзена была новая мураваная, якая стылем і архітэктурай нагадвае стары храм. Асвячэнне новазбудаванай царквы адбудзецца 17 мая гэтага года.

І так, як стагоддзі раней, штогод перад Спасам (Праабражэннем Гасподнім) і іншымі святамі на Гару прыбываюць праваслаўныя (і не толькі) з усёй Польшчы. Штогоду павялічваецца колькасць крыжоў рознай велічыні, якія ставяць паломнікі. Святая Гара Грабарка — асаблівае месца, вядомае ў краіне і далёка па-за яе межамі.

**(АС)**

# Заклік Таварыства будовы Помніка

Таварыства будовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны забітым, памардаваным, замучаным і прапаўшым у 1939-1956 гадах звяртаецца з заклікам дапамагчы ў збіранні вестак аб ахвярах трагічных падзей гэтага перыяду. Іхныя прозвішчы будуць памешчаны ў кнізе памяці. Побач друкуем бланк анкеты, якую трэба запоўніць і даслаць на адрас: **Stowarzyszenie Budowy Pomnika Prawosławnym Mieszkańcom Białostoczczyzny, ul. Warszawska 11, 15-062 Białystok.**

# Імяніны і не толькі

**Адгалоскі**

У жыцці дзяцей і моладзі, а таксама ў выхаваўчай працы з імі наглядаем сёння не заўсёды добрыя з'явы, за якія павінен быць адказны іх дом. У многіх сем'ях (таксама ў заможных і парадачных) дзеці выхоўваюцца інтуітыўна, непрадумана і занадта традыцыйна. Вынікае гэта не толькі з таго, што большасць бацькоў не падрыхтавана да адпаведнага выконвання ролі выхаваўцаў, але і з-за недахопу педагагічнага інстынкту. Няраз публічна дэманструецца погляд, што партнёрскія адносіны з уласнымі дзецьмі — непатрэбныя, а нават смешныя. Навошта весці размовы з імі, калі можна загадаць або не дазволіць, забараніць! Яду, вопратку, дах над галавой — маюць. Часамі ёсць у дзіцяці нават асобны пакойчык, цацкі, „кішэнныя" грошы і т.д.

* * *

У апавяданні Ады Чачугі „Імяніны" з цыкла „Якія мы людзі" („Ніва" н-р 6 ад 8.II.1998 г.) чытач атрымаў — быццам у таблетцы — адлюстраванне сённяшняга выхавання дзяцей і моладзі, якое праяўляецца не толькі ў школьных гардэробах, туалетах і калідорах (вядома, не ў час заняткаў), але і ў некаторых сям'ях.

Не буду шукаць прычын таго, што дзеецца на тэрыторыі школы. Магчыма, кепска арганізуюцца там дзяжурствы настаўнікаў і няма супрацоўніцтва з бацькоўскім актывам. Можа, класныя выхаваўцы занадта мала ўвагі звяртаюць на неадпаведныя паводзіны некаторых вучняў у розных месцах, у тым ліку па-за ўрокамі і па-за школаю.

У апісаным аўтаркай выпадку скандальных паводзін некалькіх хлопцаў, бяручых удзел — па запрашэнні іх школьнай сяброўкі — у яе хатняй імяніннай імпрэзе, віну трэба разлажыць перш за ўсё на маці імянінніцы і на яе (г.зн. Ганю), толькі ў невялікай ступені вінавацячы хуліганячых „гасцей". Падумайце самі: мама імянінніцы, рыхтуючыся да імпрэзы, абмежавалася тым, каб даць дзецям смачны і прыгожа пададзены пачастунак, забываючыся (а мо не ведаючы), што не хлебам адзіным чалавек жыве, г.зн. аб тым, што апрача яды і піцця (вядома, ахаладжальных напіткаў), трэба было прадумаць, як стварыць умовы, каб дзеці адпаведна правялі цэлы вечар, а менавіта не толькі час, праведзены за сталом, але каб і па-за сталом было цікава і каб ніхто нікому не прычыніў найменшай шкоды. Не гарантуючы гэтага, прыём трэба было абмежаваць пачастункам за сталом!

Як асоба дарослая (якой дапамагала вялікім вопытам яе маці, г.зн. бабуля імянінніцы), мама Гані павінна была вырашыць з ёю, каго запрасіць (і мо іх хатніх апякуноў), а таксама, колькі працягнецца імпрэза і як яна будзе праходзіць. Кіруючы запрашэнні на гэту імпрэзу, трэба было браць пад увагу толькі такіх сяброўак і сяброў, якіх яны ведалі як добра выхаваных і больш-менш спакойных і культурных! Іншая справа — прысутнасць на ўрачыстасці бацькоў запрошаных дзяцей. Сумняваюся, ці паводзілі б сябе так бесцырымонна тыя хлопцы пры сваіх бацьках! Разумею клапатлівую сітуацыю мамы імянінніцы: добра было б пазнаёміцца бліжэй з бацькамі найбліжэйшых сяброў Гані, але... пры іншых „напітках" (у нас жа ніводная сямейна -суседская ўрачыстасць не лічыцца, калі не перакуляць там акрэслуную колькасць бутэлек). Дык як жа тут запрасіць тату на дзіцячае мерапрыемства!

На маю думку, апісаны ў „Імянінах" выпадак — не адзіны. Хутчэй з'яўляецца ён класічным прыкладам агульнага становішча ў гэтай галіне і доказам таго, што мы не ўмеем пакуль што (а часта нават не лічым патрэбным) даць дзецям нейкую параду ці дыскрэтную дапамогу пры арганізаванні культурнага імяніннага ці іншага — правядзення часу па-за бяседным сталом (які нярэдка падрыхтоўваецца, каб паказаць свае кулінарныя здольнасці, заможнасць, часамі нязгодную з праўдай).

Таму лічу, што калі „Ніва" стараецца дапамагаць сваім чытачам (у многіх выпадках сённяшнім ці колішнім жыхарам мястэчак, вёсак, хутароў і г.д.) уключацца ў гарадское жыццё нашай краіны (а пасля — разам з іншымі — „увайсці ў Еўропу"), дык не павінна яна шкадаваць месца на сваіх старонках і паказваць прыклады (а нават абапіраючыся на прафесіянальную літаратуру) адпаведнай арганізацыі разнастайных, а ў тым ліку дзіцяча-маладзёжных мерапрыемстваў, хаця б і імянінных. Спецыялісты з гэтай галіны ў апошні час зашмат работы не маюць. Калі трэба, дык і я мог бы ім крыху дапамагчы.

**Міхал Занчэўскі, Варшава**



## Kwestionariusz osobowy

1. Nazwisko i imię ..........
2. Imiona rodziców ..........
3. Data urodzenia ..........
   i miejsce (wieś/miejscowość, gmina/parafia) ..........
4. Pochodzenie społeczne ..........
5. Stan cywilny i rodzinny ..........
6. Wykształcenie ..........
7. Zawód wyuczony ..........
   i wykonywany ..........
8. Ostatnie miejsce pracy ..........
   i stanowisko ..........
9. Ostanie miejsce zamieszkania ..........
10. Przynależność do partii politycznych i organizacji społecznych:
    a) do 1939 r. ..........
    b) od IX 1939 r. do VII 1944 r. ..........
    c) po VII 1944 r. ..........
11. Data ..........
    i miejsce śmierci (wieś/miejscowość, gmina) ..........
12. Okoliczności śmierci (w jaki sposób? kto zabil? przyczyny — za co?) ..........
    ..........
    ..........
    ..........
    ..........
13. Ustalono na podstawie:
    a) dokumentacji (jakiej?) ..........
    ..........
    b) relacji ustnej (czyjej?) ..........
14. Kto sporządził ..........
    data .......... miejscowość ..........
15. Uwagi ..........
    ..........
    ..........

# Каханне і смерць

У Байкаў, як у шмат якой сям'і, радзіну разваліла рэлігія. Так кажуць, хоць, папраўдзе, рознае веравызнанне нічога не псуе сярод людзей, калі іх спалучае каханне. Спадар Ян Байка, ахрышчаны атэіст, пакінуў жонку Ганну з малой дачкой, і стаў жыць адзін. Праз нейкі час іх развялі па прычыне „нязгоднасці характараў". На дачку пан Ян аліменты плаціў досыць рэгулярна, але наведваў яе вельмі рэдка. Калі Кася стала падрастаць, пасля стала студэнткай, сама пачала наведваць бацьку. І ў час хваробы, і ў час радасці.

Усе каханкі папракалі Яна: чаго тая яго Каська ўсё ездзіць да яго, калі, як ён кажа, нічога ёй не дае? Відна, мае чаго ездзіць, праўда ці не? Нават Касіна маці, пані Ганна, хрысціянка не толькі на словах, крыху скоса паглядала на гэтыя ўсё часцейшыя вандроўкі дачкі да бацькі, які яе не хацеў ведаць пару дзесяткаў гадоў. Але дачку Ганна ведала добра, хоць не лічыла яе, як сябры, за асобу нават „nawiedzoną", наіўную, з яе міласэрнасцю, пачцівасцю і даверлівасцю, што адчувалася крыху дзіўным у жанчыны з вышэйшай адукацыяй.

Кася пад трыццаць выйшла замуж за аднаверца, ды знайшла яго аж на другім канцы Польшчы, як ні дзіўна. Добра нашукалася, трапіла на вельмі падобнага да сябе, хлопца добрага, разумнага. Ды што зробіш, беднага. Нанялі яны ў Беластоку пакойчык за апеку ў старэнькай пенсіянеркі. Бо адкуль жа возьмуць грошы маладыя пастаўнікі? Умелі цешыцца тым, што кахаюць адно аднаго, што яднае іх вера ў Бога, і што яна дазваляе глядзець на ўсё з надзеяй і дзейнічаць у грамадстве, апіраючыся на словы Хрыста. І дзіцятка ў іх нарадзілася, унучачка ўлюбёная бабе Ганне.

Апошняя каханка Яна Байкі гэтай парачкі, як называла Касю і Юрку, не магла сцярпець. Чаго ж яны ўсё прывалакаюцца ў вілу да бацькі? Не даў ім нічога дагэтуль, то няма чаго і чакаць! І ёй, пані Крыстыне, не было лёгка, — ні то жонка, ні няжонка, сем гадоў аддала гэтаму чалавеку, мела надзею, што ўсё ж ажэніцца. Ну, каб хоць якая прычына была — нежанаты ж... Жыла аддзельна, у аднапакаёвай кватэры ў „старым будаўніцтве", то Ян мог бы хоць запрапанаваць жыць разам?.. Дом жа такі шыкоўны. А гэтыя ўсё лезуць, пра Хрыстовую міласэрнасць і маральнасць плятуць. Якая тут можа быць даччыная ці бацькавая любоў? Каб меў яе за дачку, то сядзеў бы дома, не кідаў малою!

І так праз трыццаць гадоў прачнулася ў Яне Байку тое, што забіў у сабе. Чакаў дачку дома, званіў на працу, сустракаліся ў кавярні. А найбольш пачало цягнуць яго да ўнучачкі, асабліва тады, калі Басенькай займалася баба Ганя.

Нядоўга. Трапіў у бальніцу. Ля ложка змяняліся дачка і каханка. Пані Крыся старалася на трапляць Касі на вочы. Дачка заставалася часам і нанач — тут лекарам працавалі калега з ліцэя, медсёстрамі сяброўкі. Аднойчы медсястра ад парога пазвала Касю ў кабінет дзяжурнага ўрача.

— Сёння ў твайго бацькі быў прадстаўнік агенцтва па продажы маёмасці. Прывяла яго тая кабета. Ён прадаў свой дом! Хацеў ёй даць палову грошай, то яна пазвала нас на сведкаў, і кажа: „Трымай, Ясь, усё пад падушкай, цешся, столькі грошай, пэўна, ты даўно не бачыў! А вы пацвердзьце — я грошай не бяру". Ты, Кася, папытай яго пра тое.

Але дачцэ і слова на тую тэму не праціснулася праз горла. Прадаў — не прадаў, гэта ж ягонае. Як можна трывожыць хворага чалавека? Падумае, нябось, што для грошай сюды бегае...

Назаўтра пасля абеду Кася застала бацьку ў ложку ў чорнай піжаме. Ды не, гэта не піжама была, а пінжак, з гваздзікай у борце. Паголены стомлены твар жаўтлява адбіваўся ад падушкі.

— Што ты, татка, так выстраіўся?

— Сёння ў мяне быў шлюб, віншуй.

— Ну, то добра, татка, што ты пасталеў. Адпачывай цяпер.

Кася разгарнула Біблію, пачала чытаць бацьку Першае пасланне св. Паўла карынфянам. Пра любоў там напісана, што бескарыслівая яна, усёдаравальная, што такая моцная, што ўсё пераможа...

— Добра, тата, што ты стаў разумець гэтыя словы. Трэба дараваць усё ў імя любові...

Адказу не было. Вочы бацькі глядзелі шкляна. Аддаў ён свой дых Богу, ля пакінутай у маленстве дачкі, атэіст, слухаючы слоў апостала Паўла, які з дзікага праследніка веры Хрыстовай абярнуўся ў гарачага пашыральніка Ягонай навукі.

Людзям цікава, вядома, што атрымала ў спадчыну адзіная дачка аднаго з багацейшых у роду людзей. Навуку атрымала ўжо раней — як умець пражыць без бацькі, як яму дараваць. Грошай, вядома, пад падушкай ніякіх не было, на ашчаднай кніжцы толькі тры злоты, што засталіся з амаль двухсот новых тысяч. У шыкоўнай віле Яна Байкі гаспадарыць новы пан. А спадарыні Крыстыны і след прастыў.

Ды не Кася плача па грашах, а бацькава далейшая радня. Вельмі ж шкадуюць пляменніцу, хаця не ўспомнілі яе і словам пару дзесяткаў гадоў. Такая страта: усё пайшло ў чужыя рукі!

**Міра Лукша**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 15**

Многія публікацыі ў „Нашай ніве" былі прысвечаны чужым народам або тым нацыянальнасцям, якія жылі па тэрыторыі этнічнай Беларусі. Практычна ўсе публіцысты „Нашай нівы" праяўлялі пашану і паслядоўны дэмакратызм у трактоўцы ўсіх чужынцаў. Сказанае адносіцца таксама да яўрэяў. Ідэя салідарнасці з яўрэйскім насельніцтвам моцна загучэла ў ананімнай публікацыі, якая была змешчана ў 13 нумары тыднёвіка за 1908 год. Артыкул быў прысвечаны яўрэйскаму пагрому, які меў месца ў першай палове 1908 года ў Беластоку.

„Скончылася ўжо справа аб пагром жыдоўскі ў Беластоку. Як паказвалі на судзе сведкі, пагром ужо даўно прыгатаўлялі. Але беластоцкі паліцмайстар Дзеркачоў, чалавек вельмі справядлівы, не хацеў дапусціць пагрому і ўсімі сіламі перашкаджаў пагромшчыкам у іх зверскай рабоце. Тады пагромшчыкі, як кажуць, забілі Дзеркачова, ды сказалі на жыдоў, быццам гэта іх работа. Каб нацкаваць народ на жыдоў, выдумлялі розныя фальшывыя весці аб іх. У часе працэсіі нейкія людзі (як казаў адзін сведка, між імі быў чалавек у чыноўніцкай шапцы) сталі страляць у народ, пагромшчыкі крыкнулі, што гэта жыды і пачаўся пагром. А на судзе выйшла, што кабета, каторая была ў працэсіі і папала пад гэтыя стрэлы, аказалася зраненай салдацкаю куляю; значыць, не жыды стралялі, а нехта другі. Да пагрому належалі некаторыя паліцэйскія і салдаты, як паказваюць сведкі; у лагеры ваенным былі знойдзены некаторыя разграбленыя рэчы.

Сведкі апісвалі страшэнныя зверствы пагромшчыкаў, як яны забівалі і старых, і малых, не шкадуючы і кабет жыдоўскіх. Многа нявіннай крыві пралілося ў гэтыя ганебныя дні пагрому.

Як з усяго было відаць, народ, што належаў да пагрому і грабяжоў, вялі на злое дзела людзі, каторых на суд не прыцягнулі і каторыя адурманіўшы цёмных мужыкоў і гарадскіх хрысціянаў, самі гуляюць на свабодзе.

Адвакаты на судзе дамагаліся кары для пагромшчыкаў не таму, каб здаволіць скрыўджаных жыдоў, а толькі каб суд прыгаворам сваім паказаў, што яўрэі — такія ж людзі і грамадзяне як усе іншыя, што іх нельга крыўдзіць ды біць без кары. Калі ўвесь народ зразумее гэта, то розныя нягодныя людзі, што цяпер сеюць меж народам нянавісць і сварку дзеля карысці сваёй, не здолеюць падняць народ на пагромы і будзе спакой і згода меж нацыямі".

У апошніх фрагментах артыкула ананімны аўтар інфармаваў аб прыгаворах у беластоцкім працэсе. Даведваемся, што пастаўлены перад судом удзельнікі пагромаў былі пакараны аднагадовым і трохгадовым зняволеннем. У турмы пасаджаных было 18 чалавек, а 15 былі апраўданы.

Агульная інтанацыя публікацыі пранікнута шчырым спачуваннем для праследаваных яўрэяў. Аўтар артыкула адназначна стаяў на грунце роўнасці ўсіх народаў і іх гарманічнага сужыцця.

**Алесь Барскі**

На мой розум

# Край парадоксаў

— То што там, дзядзьку Ліяш, новага чуваць?

— А тое чуваць, што на святы да дачкі ў Беласток ездзіў.

— Пагасцявалі, значыць?

— Тыдні два сядзеў. На самай Выгодзе жыве, што раней Вясранкай называлі. За маёй маладосці тут толькі адно жыта ды бульба раслі і азярцо блакітнае было, што „Балатонам" называлі. А цяпер, брат, дамішчы, быццам палацы стаяць.

— Значыць, нядрэнна народу жывецца.

— На мой розум — гэта край парадоксаў. Адно гавораць, а другое робяць. Гэтак, як бы іграў частушкі, а спяваў „Вайну народную". Невядома, каму верыць. За душы змагаюцца, а дапаўзуць да карыта па душах гэтых і як у прыказцы: „Я свістаў пакуль дастаў, а ты пасвішчаш пакуль зышчаш". А другая Японія Нікарагуай стала.

— У палітыцы вы самі ведаеце, як бывае.

— А на халеру мне гэтая палітыка. Я пра штодзённасць. Выйшаў я на шпацыр наваколле пагглядзець. І што бачу? Там, дзе раней азярцо было, адзін трыснёг расце ды некалькі качак ў балоце плёхаюцца. Раней тут у святочны сонечны дзень месца знайсці нельга было. Сем'ямі з'язджаліся. І пытаю ў аднаго такога, што з сабачкам шпацыраваў. А ён мне паказаў рукою на другі бок сажалкі і кажа: „Глядзі, пан! Там крыніца б'е. І пакуль яе шлюзаю да канца не закрылі, дык вада чыстая была і не зарастала, а цяпер багна адна. У летні час людзі вакон адкрыць не могуць". Спусцілі ваду, выбралі каля тоны рыбы і так пакінулі. Прыватным прадаць яе не хочуць і самі нічога не робяць. Адным словам, сам не гам, і камусь не дам". А можна было б другія Дайліды зрабіць. Значыць, так яна выглядае, гэтая экалогія. Багна і парадокс.

— Ну, дзядзька Ліяш, высахлая сажалка яшчэ аб нічым не сведчыць. Рэкі і тыя высыхаюць.

— Праўда! Марс таксама ўзяў і сам высах. Розум высыхае. Шпацыруючы дайшоў я да вываду, што з'язджаюцца сюды ўсе п'яніцы з Беластока. Дзе не ступіш — бутэлькі валяюцца, найчасцей тыя, якіх не скупляюць. Выносяць людзі. І то, пабач, пад самім носам паліцыі! Пытаю я ў краме, што непадалёк, чаму яно так. А тыя: „Ад нас не бяруць". І высвілася, што вытворцу не аплачваецца запускаць мыйню, набіраць працаўнікоў. І думаю сабе так: „Побач фабрыка шкла. Ці не выгадней перагапіць гатовае шкло, чым пясок? Хапіла б толькі парасстаўляць па горадзе капы і дармовая была б сыравіна". І скусіла мяне найсці на фабрыку. А там малявацка нейкая ўзіраецца на мяне і пытае: „Вы не з горада?" — „Не!" — „А ці я вучу вас, як кароў даіць? Шкло — гэта справа тонкая!" А ідзі ты, думаю, на хрэн са сваёй тонкасцю. Чысты абсурд.

— І так яна сказала, дзядзька Ліяш? Але не трэба ўжо ўсяго пад адзін капыл.

— А так, так! У нас адзін другому бескарысліва дапамагае. Каб не капіталізм Валэнсы пад лозунгам „Я за тым, а нават супраць", дык Урбан не меў бы з чаго газет складаць. Чысты парадокс. Прачытаў я ў „Супер-Экспрэсе", што замест вінаўніка пакрыўджанага засудзілі. Пакаралі за тое, што дрэнна паставіў машыну, ствараючы добрыя ўмовы злодзею, які потым папаў у дарожную аварыю. Во як! Прачытаў я аднойчы ў вітрыне „Салідарнасці", будучы ў зяця ў чыгуначным упраўленні на Каперніка:

„Gdy już będziesz święty<br>
Stań przed jej tronem<br>
Proś za „Solidarność"<br>
I bądź jej patronem".

Так звярталіся да нябожчыка Папялушкі. Прывыклі толькі і чакаць, бо самі — ні бэ, ні мэ, ні кукарэку.

**Міхаль Панкоўскі**

# Парнасік

### Хто піша ў „Ніву”

Хто піша ў „Ніву”,
Ён беларус не ляніві.
Ці піша прыгожа, ці не вельмі —
Ён сябра яе шчыры і верны.
А хто як піша,
Коратка „ацаню” *ніжэй.*
Уладзімір Сідарук —
Па беларускай мове самавук.
„Ніва” была яго школай,
Граматыкай, літаратурай, мовай...
Здаўна піша як сапраўдны журналіст
І каштоўны кожны яго ў „Ніву” ліст.
Піша прыгожа, глыбока,
Яго праўда пра жулікаў часта ім
„выходзіць бокам”.
Артыкулы багатыя зместам
І толькі ў „Ніве” ім месца.
Пётр Байко ўсебакова здольны,
Чалавек жывой прыроды і вольны.
Піша на розныя тэмы і найбольш
пра Белавежу
І павінен напісаць яшчэ гісторыю
„белай вежы”.
Андрэй Гаўрылюк —
Мой верны і пачэсны друг!
Працуе на роднай ніве і ўсюды
раз'язджае,
Кожнага земляка з усмешкай вітае.
Селянін і столяр Мароз Грыша
Пра любоў, веру, надзею і спакой
піша.
Яго артыкулы змястоўныя,
Станоўчыя і ніколі адмоўныя.
Піша пра сялянскую працу,
хаця рэдка,
Але праўдзіва і метка!
А хто не ведае статнай і прыгожай
Аўроры?
Яна не баязлівая і ў час гора;
Піша сенсацыйныя допісы —
людскія перажыванні...
Змясціць у асобнай кнізе ж
апавяданні!
А Мінцэвіч Міхал —
На старонках „Нівы” пяром
размахаў.
Піша пра розныя і балючыя справы
І не шукае сабе гонару і славы,
Толькі бароніць пакрыўджаны люд —
Гэта яго прызванне і *труд*!
Міхась Куптэль — ён цікавы
І мае парыў на некаторыя справы —
Спебануць нечакана кагосьці,
Што можа давесці нават да злосці.
Але і яго паважаю і цаню
І свой паклон дубіцкі шлю.
Грыгарук Іаланта —
Вялікай пашаны і ўвагі варта!
Гэта новая жамчужына засвяціла
ярка,
Яе творчасць на літаратурных гонях
— якасная марка.
Мікалай Лук'янюк — усім вядомы,
Ён з дзяцінства прывык да кароў,
сена, саломы...
Селянін, пенсіянер, паэт,
Публіцыст і карэспандэнт.
Гэта чалавек, якім можам
ганарыцца;
Паслухаць яго — не будзем
сварыцца.
Барыслаў Рудкоўскі — тытан навукі,
У „Ніве” рэдкія яго гукі.
Яны ажыўляюць газету, як дождж
вясновы,
Які падае на добрых і злых,
і дармовы.
Бельск-Падляшскі — яго дом
і радзіма,
І родная беларуская „Ніва”.
Мо каго праміную, дык прабачце.
Старонку родную слаўце!
Гэта наш доўг, абавязак —
Калі паміж намі згода, тады
будзе парадак.
А Панфілюк піша „грызмолы”,
Хаця, здаецца, і не хворы...
Але хто ведае — можа і так быць,
Хаця стараюся праўду пісаць
і „ваду” не ліць.
Дык бывайце; сваю спадчыну
ад душы прызнавайце
І ўзаемна сардэчна ў „Ніве” вітайце!

**Мікалай Панфілюк**

### Падзяка

Паненкам з акенца
Я хачу падзякаваць.
Яны шчыра так працуюць,
Нас з усім светам злучаюць.
Гэта дзеецца ў Нарве,
Хоць не бачыць іх ніхто,
Са слухаўкамі на вушах
Працуюць і ў дзень, і ў ноч.
Вось за гэта ім падзяка
І за труд, і за клапоты,
За іх ветлівасць, пашану
Шчыра дзякуе народ.
А я ім усім жадаю,
Каб шчасліва нам жылі
І каб гора не спазналі
У сямейным у жыцці.
Хто калісьці вам пазвоніць,
Хуценька каб спалучыць
Ды за вашу важну працу
Добры грошы заплаціць.

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астрона! Мне прысніўся „цяжкі” сон. Быццам бы ўсё дзеецца зімою. Мы з мужам і малым сыночкам ідзем па ільдзе. Гэта замерзлае возера. Раптам лёд лопаецца, але мы не топімся, бо апынуліся на крыжэ. Што рабіць? Як ратавацца!? Крыга плыве, а мы седзімо на ёй.

Раптам перад намі, сярод возера, паяўляецца будынак. Не дом гэта, а быццам бы нейкі хлеўшок, невялічкая гаспадарчая будынiна. Стаіць таксама на ільдзе, але на стабільным.

Падплываем на крыжэ да гэтага дома. Крыга зрабілася зусім малая. Мы ўтраіх на ёй ледзь месцімся. Раптам я бачу, што мой муж ужо не з намі, а каля таго будынка. Крыга падплыла бліжка да яго, але яшчэ ёсць між намі вада. Ён выцягвае руку і хапае за ручку нашага сыночка. Выцягвае яго на той нібы бераг.

А пасля быццам бы зноў мы з мужам на гэтай крыжэ. Трэба ж яшчэ нам сысці з яе, скочыць на бераг, пераскочыць тую ваду, а крыга ўжо зусім маленькая.

Тады муж становіцца на калені і паўзе памаленьку, асцярожна, каб крыга не перавярнулася. І так мы падплываем да берага. Тут я прачнулася. Не ведаю нават, ці выйшлі б мы на бераг.

**Анна**

Анна! Я ўжо нядаўна пісаў, што калі сніцца лёд, дык чалавека чакае нейкая страта, няўдача.

Вы ўсёй сям'ёй былі на ільдзе, дык гэта няўдача можа датычыцца ўсёй вашай сям'і. Будзе вельмі цяжка, так як цяжка было вам на той адарваўшайся ільдзіне, крыжэ, даплысці да ратунку — той хаткі, што, хаця і стаяла на ільдзе, то прынамсі была стабільная.

Думаю, што ўсё ўтрасецца, бо ўсё ж вы даплылі да яе.

**Астрон**

# Рышард Лужны (1927-1998)

З глыбокім жалем і сумам паведамляем, што 8 сакавіка г.г. на 71 годзе жыцця памёр праф. д-р габ. Рышард ЛУЖНЫ — Чалавек вялікага сэрца, розуму і духа, сусветнай славы Вучоны, наш маральны і духоўны Праваднік, заснавальнік люблінскай беларусістыкі, выкладчык Ягелонскага універсітэта ў Кракаве і Каталіцкага люблінскага універсітэта, вялікі Сябра і Настаўнік.

У асобе Прафесара польская і сусветная навука панесла цяжкую, балючую і непапраўную страту.

12 сакавіка на могілках у Вялічцы Прафесара ў апошнюю дарогу правадзілі Ягоная найбліжэйшая Сям'я, духавенства, навуковыя супрацоўнікі, студэнты і творцы культуры Кракава, Любліна, Беластока, Варшавы і іншых навуковых і культурных асяродкаў, натоўп паклоннікаў і верных сяброў Вучонага, звычайных людзей. Над магілай Прафесара, акрамя малітваў за вечны спачын, прамоў шматлікіх навуковых супрацоўнікаў, прагучэлі і вершы ўсходнеславянскіх паэтаў: Аляксандра Пушкіна, Тараса Шаўчэнкі і Еўдакіі Лось. Развітальную тэлеграму прыслаў папа рымскі Іаан Павел II.

7 красавіка г.г. у касцёле Каталіцкага люблінскага універсітэта ў гонар Нябожчыка была адпраўлена ўрачыстая імша, у якой прынялі ўдзел вучоныя і студэнты двух люблінскіх універсітэтаў, Ягелонскага універсітэта ў Кракаве і іншых навуковых устаноў.

***Вечная Яму Памяць!***

**Навуковыя супрацоўнікі і студэнты Секцыі Славянскай філалогіі Каталіцкага люблінскага універсітэта**

# Зубрыны статак

У канцы мінулага года ў Белавежскай пушчы пражывала 290 зуброў, у тым ліку рэкордная колькасць — аж 60 штук — маладых. У паказным запаведніку і зубрагадавальніку цяпер прабывае 37 асобін.

Ужо 20 гадоў белавежскі статак у сярэднім налічвае 250 зуброў. Кожны год вядзецца рэгуляцыя колькасці жывёлы. Зуброў прадаюць жывымі, а частку адстрэльваюць на мяса. У мінулым годзе адстрэлена — 30 зуброў і столькі ж планусецца сёлета.

Варта адзначыць, што Белавежа з'яўляецца вядомым у свеце асяродкам зубрагадоўлі. Ацэньваецца, што ва ўсёй Белавежскай пушчы (разам з яе часткай ў Рэспубліцы Беларусь) пражывае амаль 600 зуброў. **(гаї)**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. аргенцінскі танец, 4. манхатанскі будынак, 6. павучальны вершык, 7. у грэчаскім алфавіце, 9. адзінка вымярэння сілы прыроднай з'явы, 11. папулярная руская народная песня, 12. іграе на альце, 13. бакавы адростак ад ствала дрэва, 15. парадная зала ў багатым доме, 17. печаны выраб з начынкай, 18. напеўная размова ў вакальным творы, 19. цэнтр паўстання ў 1920 г.

**Вертыкальна:** 1. Ялена, расейская кампазітарка-педагог (1874—1967), 2. малы цюбік, 3. контур, 4. аўстрыйскае возера на мяжы з Венгрыяй, 5. Анатоль, беларускі кампазітар (нар. у 1913 г.), 6. Іаганес, нямецкі кампазітар (1833—97), 8. сфера дзейнасці, 9. мужчынскі голас, 10. раствор смол у шкіпінары, які прыдае прадметам бляск, 14. рака ў Германіі, левы прыток Заале, 16. прычоска ў выглядзе пышна ўзбітых валасоў, 17. ручай.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 11 нумара**

**Гарызантальна:** Постма, Таледа, Саката, мяжа, фунт, брыганціна, брак, Кіпр, Маніла, каўнер, патрон.

**Вертыкальна:** полымя, маса, тата, дацэнт, Кампаньёні, жабрак, Фунакі, брычка, прытон, Маер, лапа.

# З Крынак у Мшчонуў

Для гміннай спулдзельні ў Крынках добрая пітная вада з багатых падземельных вадаёмаў — своеасаблівы дар лёсу. Б'е яна з зямлі крыніцай, а паколькі знакамітая, дык здабывае ўсё новыя і новыя рынкі.

Апошнім часам крынкаўская ГС наладзіла гандлёвыя сувязі з ГС у Мшчонаве (Скерњявіцкае ваяводства) і арганізавала там свой аптовы склад. Будзе ён забяспечваць крынкаўскімі напіткамі крамы не толькі са Скерњявіцкага, але і з суседніх сумежных ваяводстваў.

**(яц)**


# Ніва

**„Niwa”**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міраповіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Разумак

Вярба б'е, не заб'е.
А калі трапаць калінай?
Счырванееш на губе
І на мяккай частцы тыльнай.
Для красы і для здароўя
Разумак народ б'е роўна.

## Вадалей

Пра ваду, асфальт і трубы
Ўсё расхвальвае і трубіць.
Лье ваду штотыдзень роўна,
Ўсюды яе ў друку поўна.
Зноў патоп нам пагражае,
Гэты раз ужо — ва ўсім краі!

Вандал Арлянскі

## Сентэнцыі Барыса Руско

* Рэха не павернеш клічам.

* Ва ўсмешцы столькі месца, што патушыць кожны боль душы.

* У маўчанні столькі цішыні, што і крыку.

* Выраўняць уласную дарогу жыцця — недастаткова.

* Няма зерня без карэнняў.

## Як пісаць успаміны

Парады супраць асіміляцыі (2)

Кожны чалавек, які ў сваім жыцці выпаўняў нейкую важную дзяржаўную або грамадскую функцыю, раней ці пазней хапаецца за пяро дзеля таго, каб выратаваць ад забыцця свае найлепшыя думкі, а здарэнням, якіх быў сведкам, ахвяраваць несмяротнасць.

Справа — на першы погляд — зусім простая. Ручка, папера і памяць — адзіныя абавязковыя спадарожнікі на шляху ў вечнасць. Неабходны яшчэ і час, аднак стадыя пісання ўспамінаў характэрная тым, што часу там — хоць адбаўляй. Справа — як кажу — на выгляд простая, сядай і пішы. А вось ужо першы сказ да чорнай роспачы даводзіць неспрактыкаванага аўтара — памяць не заўсёды згаджаецца з бязлітаснымі фактамі. У такіх выпадках добра, калі дзеля мінуўшчыны ёсць у вас нейкія фундаменты, запіскі, занатоўкі. Як ні глядзі, кожны хто спадзяецца зрабіць гэтак званую кар'еру, ужо з дзяцінства абавязаны працаваць над пазнейшымі сваімі ўспамінамі. Штодзённа, коратка і ясна. Калі, вось сёння, наведаў вас нейкі Сцёпа, абавязкова так і занатуйце: „Сёння наведаў мяне Сцёпа. Гаварылі пра жанчын і палітыку. Сцёпа закахаўся ў першую на нашай вуліцы прыгажуню. Хоча стаць лекарам". І хопіць. Якія-небудзь каментары тут лішнія. Апошняе выканае час. І калі Сцёпу не надта пашанцуе, у сваіх мемуарах напішаце так: „Сёння наведаў мяне Сцёпа. Гаварылі пра жанчын і палітыку. Закахаўся ў Лявонаву Нінку, але — куды яму, смаркачу, да яе! Балбоча нешта пра медыцыну, шызафрэнік. Хутчэй ужо бачу яго як пацыента псіхіятрычных кабінетаў і тамашніх лекараў".

Можа здарыцца і так, што Сцёпу фактычна пашанцуе. У такім выпадку напішаце: „Быў Сцёпа, адзіны верны сябар і заўжды прыстойны чалавек. Гаварылі пра тое-сёе, пра жанчын і палітыку. У Лявонаву Нінку закаханы без памяці і калі б што — буду яму маршалкам. Далёка зойдзе Сцёпа. Хто ведае — мо нат у міністэрства аховы здароўя?"

Самі вось бачыце — карысная справа ранейшыя занатоўкі для пазнейшых успамінаў, бо — як кажуць — цяжка быць прарокам у сваёй краіне.

Міхась Андрасюк

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Чаму з такою неахвотаю вяртаешся дадому?

— Бо не магу сцярпець жонкі: ужо амаль год, як паўтарае адно і тое ж.

— А што паўтарае?

— Каб вынес ёлачку на сметнік.

* * *

— Ты не ўяўляеш, як я тужу па тым часе, калі было мне пяць гадоў...

— Чаму?

— Хапіла толькі, каб падаў голас, як ужо неслі мне штосьці напіцца.

* * *

— Нядаўна памёр мой знаёмы, які да той ступені не верыў урачам, што сам карыстаўся медыцынскімі кнігамі.

— І ад чаго ён памёр?

— Ён стаў ахвярай памылкі ў друку.

* * *

— Хто цябе пазнаёміў з тваёю жонкай?

— Гэта было выпадкова; няма нават каго вінаваціць.

* * *

— Я б ніколі не ажаніўся з мудраю жанчынай!

— І слушна: у сужонстве ўсе павінны пасаваць адзін да аднаго.

* * *

Кіраўнік пансіёна да прыбываючага госця:

— Зробім усё, каб вы адчувалі сябе як дома.

— Вельмі дзякую, але я прыехаў да вас адпачыць.

## Азіят

Узяўся я аднойчы чытаць фельетон. Чытаю я сабе той фельетон, чытаю, як гэта фельетаніст сабе разважае і разважае. А разважае ён пра тое, што пра яго, фельетаніста, думае адзін азіят, што снoўдаецца па адным са слаўнейшых вакзалаў. І даразважаўся фельетаніст той, што азіят думае адно пра цялесныя з ім, фельетаністам, страсці, хаця па вакзале тым снoўдаюцца таксама *девушки, и даже, увы, женщины с золотыми зубами*.

Такія пустыя разважанні, як і трэба было спадзявацца, не давялі да ніякага хэпі-энду. Бо каб атрымаўся станоўчы вынік, трэба думаць пра высакароднае. А ўзорам такога мыслення з'яўляецца любімейшы нам Прэзідэнт. Ён жа не дурыць сабе галавы ні *девушками*, ні *даже, увы, женщинами*, як гэта, для прыкладу, робіць такі вось Клінтан, якому наўме адно толькі каб давесці дзе-якую бабу да такое крыўды, пра якую яшчэ ад яе і свет не чуў. Наш, любімейшы, беларускі Прэзідэнт думае адно толькі пра ўсенароднае шчасце. Вось некалькі тыдняў таму Прэзідэнт заявіў, што Расея вінавата ягонай дзяржаве адзін мільярд і дзвесце мільёнаў амерыканскіх долараў. Кахаючы Прэзідэнта народ узрадаваўся, што Масква тут жа адправіць у Менск тыя долары ды яшчэ і цягнік золата ў дадатак... А тыя маскалі знюхаліся з амерыканцамі і паставілі перад тэлевізарам нейкіх сваіх міністраў, якія бессаромнаналухцілі, што на гэты конт не падпісана ніякіх дакументаў. У Маскве быццам не ведаюць, што найважнейшымі дакументамі з'яўляюцца заява Прэзідэнта, пасля тэлефоны закон, а наканец Прэзідэнтаў указ, а не нейкія паперкі... Роспач!

Крыху пазней Прэзідэнт дабраўся і да другіх краін, абнародуючы, што наносяць яны ягонай дзяржаве страты вартасцю аднаго мільярда тых жа долараў у год, дыскрымінуючы беларускія вырабы. Пра гэта пераканаўся і я сам, гледзячы, як на беластоцкім базары — а ў Беластоку знаходзіцца ж падрыўны антыпрэзідэнцкі цэнтр — дыскрымінуюцца беларускія лаўровы ліст і перац. Адным словам: навокал адно ворагі, і жах падумаць, што было б, каб не Прэзідэнт. Узрадаваў ён народ абяцаючы, што калі будзе кусок хлеба, масла, мяса і сыру, дык можна будзе жыць. Прызваў ён тых, што маюць трактары і камбайны, да працы, а тых, што гэтага не маюць — да рыдлёўкі.

Прэзідэнт клапоціцца пра людзей як бацька, а яшчэ лепш сказаць — як патрыярх, а гэта прадвяшчае народу самую светлую будучыню. Прыклады гэтай заканамернасці — як бы сказаў любімейшы Прэзідэнтам наш апалітычны Старшыня — можна множыць. Я тут не пайду следам нашага ўзорнага Старшыні і прывяду прыклад, хаця адзін. На поўнач ад трыццаць восьмага градуса паўночнай шыраты працвітае адна шчаслівая дзяржава, у якой пакойны ўжо тамашні бацька народа клапаціўся пра ўсё. І народ меў хлеб, масла, мяса і сыр. І сў той народ тыя народабацькавы дары з такім апетытам, што ўсё з'еў. І цяпер на поўнач ад трыццаць восьмага градуса паўночнай шыраты перадавая эканоміка: хто не мае — той не есць. Нават залатымі зубамі.

Адам Маньяк

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Мне ўжо за пяцьдзесят, але я не стары, даволі прыгожы і нават статны. Але што ж, калі я — дурань.

Ты ж падумай, трыццаць гадоў трымаюся за адну спадніцу, а прасвету не відаць. Тады мы працавалі з ёй разам, у адной установе. Можа, табе гэта здасца дзіўным, але яна ўжо была замужняя, а я быў зусім малады.

Мне тады было дваццаць пару гадоў. Здавалася, што жыццё будзе трываць бясконца, ды ўсё ў нас складзецца так, як трэба. А тых пару гадоў розніцы (яна была крыху старэйшая) не мелі для мяне значэння.

Я закахаўся ў замужнюю (і з дзецьмі) жанчыну і не ўяўляў сабе, што раблю нешта кепскае, адцягваючы яе ад сям'і. Яна спачатку не звяртала на мяне ўвагі, не ўспрымала ўсур'ёз маіх пачуццяў. У мяне ёсць муж, сказала яна станоўча, калі я прызнаўся ёй у каханні, а я пераконваў яе, што ніхто ў жыцці яе так не кахае, як я. Толькі я змагу яе аберагаць ад няшчасцяў, кахаць яе і дапамагаць ёй выхоўваць яе дзетак. Яны былі б мне, як родныя.

Думаеш, яна згадзілася са мною?! Не захацела адысці ад мужа, хаця перакаталася ў маёй адданасці ёй. Я б дзеля яе ўсё зрабіў, зорачку з неба зняў бы. Але... і яна не засталася для мяне абыякавай.

Не сказала ж: не хачу цябе, ты мне праціўны, адчапіся. Сагрэла мяне сваёй ласкай, пакахала, як і я яе. Толькі сцвердзіла: муж і дзяцей не кіну!

І як жа мне было жыць? Пайсці да яе мужа і сказаць, што яна мая?! Дык я ж бы яе назаўсёды страціў... Думаеш, яна б гэта мне даравала? Адно сапсаваў бы ёй сямейнае жыццё, а яе б і так не меў цалкам, поўнасцю, назаўсёды са мною.

І так мінула амаль трыццаць гадоў, а ўсё ў нас па-старому. Па-старому — гэта значыць так, як у пачатку. Усе гэтыя гады мы сустракаліся, калі толькі яна мела нейкую вольную хвіліну. Я адчуваў, што ёсць у мяне дзяўчына, але не меў жонкі, хаця і яна часам нешта мне гатавала ці памыла кашулю.

Але часам мучыў мяне смутак. Асабліва ў святы, калі яна мусіла быць з сям'ёй і не магла выйсці з дому. Цяжка было мне аднаму. Тады ў галаву прыходзілі розныя думкі. Навошта ўсё гэта было і чым яно скончыцца...

Неяк падсвядома я чакаў, што нешта здарыцца з яе мужам — мо ён памрэ (ён старэйшы за яе), або выедзе за граніцу назаўсёды, пакінуўшы сям'ю ў Польшчы. Мінула, аднак, столькі гадоў, а нічога такога не здарылася. Усё ў іх добра, а муж нават не заўважыў маёй прысутнасці ў жыцці яго жонкі. Можа, гэта не было з яе боку каханне, думаецца мне... Проста мела яна дадатковую разрыўку ў жыцці.

Дзеці яе ўжо выраслі і маюць ужо сваіх дзяцей, а бабуля ўсё трымаецца дзядулі. Я ёй — быццам бясплатны дадатак. Мае час — дык мае разрыўку.

Такая сітуацыя яшчэ больш прыбівае мяне. У апошнія святы дык я думаў, што звар'яцею адзін. Сябра, які ведае пра мае справы, хоча мне дапамагчы, усё падсоўвае розных дзяўчат і жанчын. А мне ніводная не падабаецца. Толькі яе адну кахаю! Як ты думаеш, Сэрцайка, змарнаваў я сабе жыццё, праўда?

Віктар

Віктар! У нейкім сэнсе ты яго змарнаваў, бо пакуль што не пакінуў **сабе падобнага**, а гэта абавязак чалавека перад прыродай! Ну, але, можа, яшчэ штосьці трапіцца.

З другога боку, ты ж жыў, як хацеў, побач з табой была каханая, хаця яна і не была тваёй жонкай. Разам усё ж вам было добра. І гэта лічыцца перш за ўсё. Па-рознаму складаецца людскі лёс. Шкада, што жыццё такое кароткае, каб спрабаваць у ім усяго.

Сэрцайка